ЛіМ

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

4 ЛІПЕНЯ 2003 г. № 27/4213



# КОЛА ДЗЁН

## БРАЦТВА ТЫДНЯ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка накіраваў прывітанне ўдзельнікам і гасцям Міжнароднага фестывалю "Славянскае брацтва".

"Сённяшняя юбілейная сустрэча на гомельскай зямлі — асаблівая веха ў эстафеце сяброўства. У трыццаты раз на граніцы Беларусі, Расіі і Украіны збіраюцца прадстаўнікі трох нашых народаў, каб пацвердзіць сваё імкненне да яднання і супрацоўніцтва", — падкрэсліў кіраўнік дзяржавы.

## ПАВЕДАМЛЕННЕ ТЫДНЯ

Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь паведаміла, што сярэдняя налічаная заработная плата працаўнікоў нашай рэспублікі ў маі склала 241919 рублёў (у красавіку г. г. была 233650 рублёў), рабочых і служачых — 251000 рублёў (у красавіку 2003 года — 234513 рублёў).

Многа гэта ці мала, вядома, вызначаць кожнаму з нас асабіста.

## БАЛЬ ТЫДНЯ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка 27 чэрвеня па традыцыі прыняў удзел у рэспубліканскім Балі выпускнікоў ВНУ. Свята адбылося ў Палацы Рэспублікі. На ім кіраўнік дзяржавы павіншаваў лаўрэатаў намінацыі "Лепшы студэнт 2003 года", уручыў дзесяці лепшым выпускнікам Падзякі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і памятныя падарункі. Рэктарам жа ВНУ былі ўручаны ганаровыя вянкі — пераможцам у студэнцкіх намінацыях "Лепшыя ВНУ года. Вядома, не абышлося і сёлета без традыцыйнага вальса.

## ПАДАРАЖЭННЕ ТЫДНЯ

Згодна з інфармацыяй Рэспубліканскага цэнтра па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні, з 1 ліпеня ў сярэднім на 4 працэнты падаражэюць пуцёўкі ў санаторыі, прафілакторыі і дамы адпачынку. Аказваецца, у III квартале поўны кошт пуцёвак у здраўніцы па Беларусі будзе ў межах 280-460 рублёў.

Відаць, шмат каму давядзецца адпачываць на лецішчы.

ПРЭМ'ЕРА

**У святочныя дні ў сталічных кінатэатрах "Кастрычнік" і "Цэнтральны" будзе дэманстравацца новая ігравая карціна кінастудыі "Беларусьфільм" "Легенда пра Анастасію Слуцкую". Напрыканцы чэрвеня на закрытых паказах чарговы нацыянальны блокбастэр ужо паглядзелі работнікі студыі і журналісты, а яшчэ раней за іх самым жаданым гледачом стужкі зрабіўся А. Лукашэнка ("Анастасія Слуцкая" рабілася пад патранатам Прэзідэнта РБ), які даў фільму станоўчую ацэнку.**



# АНАСТАСІЯ СЛУЦКАЯ? НЕ ВЕРУ!

Несумненна, беларусы могуць узрадавацца — нарэшце нашы кіношнікі зрабілі даволі прыстойную, добра зманціраваную карціну, якая мусіць выклікаць шчырыя патрыятычныя пачуцці, жаданне абараняць сваю Бацькаўшчыну ад усемагчымых ворагаў. Сапраўды, аглядальнік "ЛіМа" выходзіў з прагляду карціны "Анастасія Слуцкая" ў добрым настроі, будучы не расчараваным ушчэнт. Бо наш фільм працягвае шэраг сусветных кінастужак, створаных апошнім часам у гонар мужных жанчын (прынамсі, французжанкі Жанны Д'Арк, англійскай каралевы Елізаветы). Відавочна, што беларускія акцёры, занятыя ў фільме, даволі сур'ёзна паставіліся да сваіх роляў: галоўных персанажаў іграюць пераканаўча, натхнёна В. Рэдзька, А. Кот, В. Саладзілаў, Г. Давыдзька, цудоўна выглядаюць у эпізодах Т. Мархель, А. Бяспалы, В. Круглова. І ўсё ж хочацца застацца шчырай у сваіх "зацемках з левай кішэні". Мне падалося, што Анастасія Слуцкая (С. Зелянкоўская) для жанчынызмагаркі, абаронцы драўлянага Слуцка ад татараў, маладой удавы, нарэшце, выглядае ўсё ж такі крышачку статычнай у экраннай прасторы. Характар Анастасіі не вельмі адчуты, прадуманы актрысай, якой бракуе эмацыянальнай гнуткасці. Хаця ў меладраматычных эпізодах фільма, у дуэце з непрафесійным акцёрам Я. Глушко (маскоўскі стрыпцізёр Тарзан) С. Зелянкоўская невераго́дна квітнее...

Увогуле стужку "Легенда пра Анастасію Слуцкую" (слова "легенда" дазволіла яе стваральнікам крыху павыдумляць, па-свойму інтэрпрэціраваць факты гістарычнага летапісу) можна аднесці да жанру гістарычнай меладрамы. У сцэнарыі А. Дзялендзіка, так бы мовіць, ёсць усё: і смех, і слёзы, і любоў. На жаль, стварыць атмасферу старой даўніны (пач. XVI ст.)праўдзівай стваральнікам фільма не зусім удалося, нягледзячы на каларытныя інтрыгі, здрадніцтва і грахоўныя жарсці, а таксама маляўнічую натуру, дэкарацыі і касцюмы (падчас прагляду немагчыма пазбавіцца ад пачуцця толькі гульні ў гісторыю). Але па словах рэжысёра карціны Ю. Яхова, "Легенда пра Анастасію Слуцкую" ўжо была паказана на фестывалі "Люблінскае кіналета" ў Польшчы, а ў рамках фэсту "Кінатаўр" (г. Сочы) на кінарынку стужку набылі некалькі рэгіёнаў Расіі і Украіны.

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

**ПРАЎЛЕННЮ БЕЛАРУСКАГА ЛІТАРАТУРНАГА ФОНДУ**

**У сувязі са здароўем прашу лічыць мяне звольненым з пасады дырэктара Белліфтфонду з 27 чэрвеня 2003 года.**

**Алесь КАМАРОЎСКІ**

# МІНДОЎГ — КНЯЗЬ НАВАГРАДСКІ

6 ліпеня 2003 года спаўняецца унікальная дата ў гісторыі Беларусі — 750-я ўгодкі ад часу каранацыі Міндоўга на караля Вялікага князя Наваградскага.

У часы свайго праўлення Міндоўг далучыў да Наваградскай зямлі летапісную Літву, уступіў у антыардынскую кааліцыю еўрапейскіх краінаў.

Пра станоўчы вынік гэтай місіі яскрава сведчыць была папы Інакенція VI ад 17 ліпеня 1251 года, якую рымскі першасвятар прыняў Міндоўга за "сына святой Рымскай царквы". Інакенцій VI тытулаваў Міндоўга каралём, а ягоную дзяржаву каралеўствам. І на пачатку ліпеня 1253 года ў Наваградку біскуп Кульмскі Гейндрых урачыста каранаваў вялікага князя Міндоўга на караля.

Міндоўг распачаў аб'яднанне беларускіх (літоўскіх) земляў вакол новай сталіцы Наваградка. Былі закладзены асновы новай дзяржавы на тэрыторыі Беларусі.

Грамадскі нацыянальны аркамітэт лічыць гэтую падзею найважнейшай у стварэнні новай дзяржавы на тэрыторыі Беларусі.

Аргкамітэт распачынае святкаванне згодна сваёй праграме:

5 ліпеня 2003 г. Аргкамітэт і Беларускі Саюз мастакоў арганізуюць Нацыянальную выставу "Каранацыя Міндоўга". Адкрыццё а 17-ай гадзіне ў мінскім Палацы мастацтваў. А 19-ай гадзіне ў Доме літаратара — Пасяджэнне грамадскасці і ўрачысты канцэрт, прысвечаны каранацыі Міндоўга.

6 ліпеня 2003 г. урачыстая імша ў Наваградскім фарным касцёле. Пачатак а 11-ай гадзіне.

9 ліпеня 2003 г. а 17-ай гадзіне адкрыццё дзіцячай мастацкай выставы "Міндоўг" у Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Ф. Скарыны.

12 ліпеня 2003 г. плануецца выправа на святкаванне ў Наваградак. Мяркуецца наведаць замчышча, гару Міндоўга, музеі горада.

**АРГКАМІТЭТ**

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
**Саюз беларускіх пісьменнікаў**
**Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы**

**Традыцыйнае гарадскога свята паэзіі**

## "Палымянае слова паэта"

**ля помніка Песняру ў парку імя Янкі Купалы**

***7 ліпеня 2003 года а 11 гадзіне***

# У АПОШНЮЮ ДАРОГУ ПРАВОДЗІЛА БЕЛАРУСЬ ПІСЬМЕННІКА ВАСІЛЯ БЫКАВА

## РАЗВІТАННЕ З БЫКАВЫМ

**25 чэрвеня Беларусь сказала "бывай" народнаму пісьменніку Васілю Быкаву. Тысячы людзей прыйшлі ў гэты трагічны дзень у Дом літаратара, каб ушанаваць памяць пра пісьменніка, вядомага ва ўсім свеце. Некалькі гадзін доўжылася жалобная цырымонія. Сышліся блізкія нябожчыка, яго сябры, аднадумцы, калегі і звычайныя чытачы. На пахаванне прыехалі з Масквы вядомая паэтэса Рыма Казакова, пісьменнік Юрый Чарнічэнка. Спачувальную тэлеграму даслаў прэзідэнт Расійскай Федэрацыі У. Пуцін.**

Запісаны на магнітафонную стужку, прагучаў голас самога Васіля Быкава. "Наш абавязак — гаварыць праўду", — гэтыя словы пісьменніка можна назваць неўміручымі. Паніхіду распачаў старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч. Ён, у прыватнасці, сказаў: "Няшчасце напаткала ўвесь свет... Спынілася сэрца салдата і патрыёта". Потым слова ўзяў сябар і паплечнік Васіля Быкава, народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін. Ён прачытаў вершы, прысвечаныя памяці Быкава. Выступілі таксама лаўрэат Дзяржпрэміі — Генадзь Бураўкін, сакратар Саюза пісьменнікаў Масквы Валянцін Аскоцкі, акадэмік НАН Беларусі Радзім Гарэцкі, сакратар Саюза ўкраінскіх пісьменнікаў Вячаслаў Мядзведзь і іншыя.

Па словах Валянціна Тараса, для народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава гэта не смерць, а ўваскрашэнне для вечнасці. На такой ноце і закончылася цырымонія развітання. З Дома літаратара труну з целам Васіля Быкава неслі на руках да плошчы Якуба Коласа. У апошні шлях пісьменніка праводзіла мноства людзей. Яны проста любілі і любяць яго творы, высока цанілі непахісную грамадзянскую пазіцыю Васіля Быкава.

Пахавалі пісьменніка ў Мінску на Усходніх могілках.

С. ЯВАР







З болем у сэрцы ўспрынялі мы вестку пра смерць Васіля Быкава, аднаго з самых шаноўных і самых мужных людзей нашай зямлі. Вялікі пісьменнік XX стагоддзя, ён адкрыў свету Беларусь, сцвердзіў чалавечнасць як найкаштоўнейшую катэгорыю жыцця нашага драматычнага часу. Радзіма страціла свайго духоўніка, свайго незаменнага прадстаўніка ў сям'і народаў свету. У Гродне назаўсёды зберажэцца след яго асобы, яго мудрай душы. Тут яго помняць і любяць. Нізка схіляем галовы і глыбока смуткуем. Упэўнены: Васіль Быкаў застаецца з намі, і яго творчы подзвіг дапаможа людзям захаваць веру ў дабро і справядлівасць.

Выкладчыкі філалагічнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы А. Астраух, С. Габрусевіч, М. Даніловіч, І. Жук, У. Каяла, Дз. Лебядзевіч, І. Лепешаў, М. Мікуліч, С. Мусіенка, Ю. Пацюпа, А. Петрушкевіч, А. Пяткевіч, А. Раманчук, А. Руцкая, Т. Тамашэвіч, П. Сцяцко, Я. Трацяк, В. Царлюкевіч, Ю. Якубовіч, С. Янушкевіч.

# У ВЯНОК ВАСІЛЮ БЫКАВУ



Георгій ЛІХТАРОВІЧ

***Трымціць непаслухмяная рука,***
***Баліць душа і замірае сэрца,***
***І слова выбіваецца з радка,***
***Яшчэ не ўсведамляе сэнсу смерці.***

***Не стала дуба ў полі —***
***ЗНАК БЯДЫ.***
***І навальніца ў роспачы ад ранку:***
***Цяпер яна не ведае, куды***
***накіраваць наступную маланку?***

***Жалобная віруе талака,***
***Не верыць,***
***што яго жыццё пражыта.***
***А як Радзіме жыць без Васілька?***
***Ці будзе каласіцца ў полі жыта?***

***Пакуль мы ў смутнай***
***мітусні прамоў***
***Ягоны скон асэнсаваць не ў стане.***
***Напэўна,***
***і вярнуўся ён дамоў,***
***Бо ведаў,***
***што ніколі ўжо не ўстане?..***

***Гаротна будзе слёзы неба ліць,***
***А чалавек —***
***да ісціны імкнуцца...***
***Каб высветліць,***
***што МЁРТВЫМ НЕ БАЛІЦЬ,***
***Ён здольны быў пайсці***
***і не вярнуцца.***

***І міласці ад лёсу не чакаў —***
***За спіны не прывычны***
***быў хавацца.***
***А нам, жывым,***
***і смерцю ўласнай даў***
***Ці не апошні шанец — аб'яднацца!***

Пятро ПРЫХОДЗЬКА

***Ты не памёр. Вечна жывы***
***Ісці ў страі салдацкім будзеш.***
***Ніколі, друг мой баявы,***
***Цябе планета не забудзе.***
***Вышэй узнімеш крыж святы.***
***І хай ярчэй зара зазяе.***
***З такімі воямі, як ты,***
***Радзіма ростані не знае.***

*23 чэрвеня 2003 г.*

Сяргей ПАТАРАНСКІ

### ЗАПАВЕТ

***І кожны па жмені кінуў...***
***І вось тваё цела — курган,***
***як запавет сыну,***
***што ворагаў воляй змагаў.***

***Паўстаў твой курган болем***
***над белай, як сонца, зямлёй,***
***каб Запавет ніколі,***
***як цела, не знік з табой.***



Казімір КАМЕЙША

### РАЗВІТАННЕ

***І здрыганецца ў роспачы душа***
***І захліснуць яе і сум, і вусціш.***
***У ёй яшчэ не скончана імша.***
***Яшчэ малітва***
***плачам паліць вусны.***

***Я пераняў бы боль той, калі б мог,***
***І вымаліў хвілін яшчэ б у Бога.***
***Была дарога доўгая дамоў***
***І раптам абарвалася дарога.***

***І як яно адплачацца й калі***
***І будзе зноў***
***сумленне чыстым наша?***
***Жывым не ўсім***
***той цяжкі боль баліць,***
***Хоць ён баліць***
***і мёртвы сёння нават.***



# НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ

Падзеям Маладзечанскага нацыянальнага фестывалю беларускай паэзіі і песні будзе прысвечаны выпуск "Літаратурнага праспекта", які, як заўсёды, прагучыць у суботу, у 10.45. У свой звычайны час пройдуць аўтарскія праграмы "Брама", "Авансцэна", "Сентыментальнае паляванне". Іх пачатак у 22.30.

"Клас і К" у суботу ў 16.15. Імгненні паэзіі ў праграме "Канцэртная зала" ў нядзелю ў 21.30. Ну, і, безумоўна, "Кароткія гісторыі" штодзень, акрамя выхадных, апоўначы.

На канале "Культура" працягваецца чытанне аповесці У. Караткевіча "Ладдзя роспачы". У аўторак — літаратурны блок з Галінай Шаблінскай. Пачатак у 14.10.

У нядзелю — "З фондаў радыё". І. Шамякін. "І змоўклі птушкі". Кампазіцыя спектакля. Пачатак у 19 гадзін.

Н. К.



ЗГАДКІ



***Да чаго ж усё-такі хуткаплынны час! Амаль неўпрыкметку накручвае дзень за днём, год за годам, дзесяцігоддзе за дзесяцігоддзем... Іншым разам азірнешся назад, згадаеш былое — і не надта верыцца, што табою столькі пройдзена, столькі зведана... Ну, як паверыць, што нада мной ужо адшалясцела восемдзесят гадоў, што ўжо разменьваў і крочу па дзявятай дзесятцы?.. Але такое надарылася, і варта азірнуцца назад, у думках прайсціся па сваіх незлічоных сцежках-дарожках...***



Іван КУДРАЎЦАЎ

# З ПАМЯЦІ ЗДАБЫТАЕ...

Я, Кудраўцаў Іван Фёдаравіч, нарадзіўся 28 чэрвеня 1922 года. У вёсцы Сыцянец Старобінскага раёна Мінскай вобласці (цяпер — Салігорскі раён).

Як пазначана ў гістарычных дакументах, вёска Сыцянец існуе з незапомных часоў, дакладных звестак пра яе няма. У складзенай у 1887 годзе "Ведомости о застенке Сыценец Минской губ. Слуцкого уезда Старобинской волости" паведамляецца, што на той час тут мелася 8 гаспадарак. На пачатку XX ст. (1909 г.) ужо былі 24 двары, у якіх жылі 133 чалавекі. Паводле перапісу 1917 года — налічвалася 26 гаспадарак, 146 жыхароў.

Той родны кут мой, дзе нарадзіўся, адкуль выходзіў у людзі, вядома, застаўся ў памяці і ў сэрцы на ўсё жыццё...

Скончыўшы чатырохкласную Сыцянецкую школу, я пачаў хадзіць па веды ў Старобін, у тамашнюю сярэднюю школу.

Час тады быў вірлівы. У абуджанай рэвалюцыяй вёсцы нараджалася новае, нябачанае. Закарнашкі ўчэпістай дзіцячай памяці і сёння захоўваюць урыўкі з хады падзей канца 20-х—30-х гадоў. Нараджэнне калгаса ў роднай вёсцы, у навакольных вёсках... Упершыню пачутыя словы "кулакі", "падкулачнікі", "раскулачванне"... Стрэлы кулацкіх абрэзаў у калгасных актывістаў, у раённых кіраўнікоў...

І — пачатак неадольнага наступу на сельскую цемру, з'яўленне парасткаў новага грамадства, пранікненне ў жыццё і побыт вяскоўца навейшых дасягненняў чалавечага розуму.

Хіба ж забудзецца, як мы, непаседлівая гурма хлапчукоў-малечы, аднойчы амаль цэлы дзень тоўпіліся каля школы, дзе ўстанаўлівалі высозную жэрдку-антэну, — адкрывалася першая ў вёсцы радыёкропка... Назіраючы за дзядзькамі, якія вычэсвалі, габлявалі, адмервалі, склёпвалі тую антэну, мы зноў і зноў падбягалі да незвычайнай нябачанай скрынкі, што ляжала на школьным ганку. Нам сказалі, што гэта і ёсць тое "радзіва", якое павінна загаварыць і зайграць.

Калі з жэрдкай было скончана і яна высозна ўзнялася ў неба, мы ўсе стоўпіліся каля таго "радзіва". Два незнаёмыя хлопцы-спецы нешта пачалі круціць у ім, шчоўкаць. Скрынка засвяцілася ўнутры, потым зашыпела, завярашчала і раптам... загаварыла чалавечым голасам... Мы слухалі і не давалі сабе веры: гаварыла скрынка, па-людску гаварыла... Хацелася зазірнуць у яе, раскрыць падман: ці не схаваўся хто там за гэтымі бліскучасцімі сценкамі і так складна расказвае — як жывы чалавек?.. Потым голас змоўк, і паліласа музыка: такая лагодная, шчымлівая, што ў горле заказытала і вочы самі сабой заморгалі...

Мы доўга знямела стаялі, не могучы ачомацца ад цуду, які нарадзіўся вось толькі што, на нашых вачах...

Вучыўся я ахвотна, з цікаўнасцю. Вельмі любіў чытаць — усё, што траплялася пад руку. Перад сном, прыладзіўшы каля ложка газовачку, абавязкова, не выпускаў з рук кнігу. За гэта часта пападала ад мамы: "Газы на цябе не набярэшся!.."

Нярэдкімі былі ў нашай хаце гучныя чытанні. Сыдуцца вечарком дзядзькі ды цёткі, павядуць гамонку пра жыццё-быццё, пра набалелае. Нагаварыўшыся, хто-небудзь з гасцей спытае:

— А што там, Ваня, у кнігах пішуць?..

Тут мяне асабліва прасіць не трэба было — ахвотна чытаў што-небудзь цікавае для гэтых людзей. З надзвычайнай увагай слухалі, памятаецца, коласаўскую "Новую зямлю" — за некалькі вечароў мы яе праштудзіравалі ад пачатку да канца. Захапленню маіх слухачоў не было межаў. Цмокаючы языком, адзін дзядзька зноў і зноў паўтараў:

— Вось дык напісаў! Ну і чалавек! Нібыта вось тут, сярод нас, ён жыў, усё зведаў і так, пане-браце, складна выклаў, што за душу бярэ... Ці не з нашых ён мясцін, Ваня? Няйначай, з нашых...

Вучоба давалася мне даволі лёгка, і сярэднюю школу я скончыў з пахвальнай граматай. Гэта ў той час давала права паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы без уступных экзаменаў.

Роздуму, куды падавацца далей вучыцца, у мяне не было: любоў да літаратуры, захапленне ёю пацягнулі ў беларускі дзяржаўны універсітэт, і ў 1939 годзе я стаў студэнтам толькі што адкрытага ў тым годзе філалагічнага факультэта БДУ.

Скончыў першы курс, надышоў фініш другога.

І вось — 22 чэрвеня 1941 года...

Ранічкою я падаўся ў Ленінскую бібліятэку — заўтра ў нас меўся быць экзамен па гісторыі СССР. Сеўшы ў чытальнай зале за свой звыклы стол, паглыбіўся ў адпаведныя матэрыялы.

А дванаццатай гадзіне ў адным з куткоў чытальні прагучалі ўдары Крамлёўскіх курантаў. Загаварыла радыё. Дыктар аб'явіў аб выступленні Народнага камісара замежных спраў СССР В. Молатава...

Вайна...

Той як першы дзень урэзаўся ў памяць і неверагоднай узрушанасцю, тлумам, што панавалі ў горадзе ўсюды, ва ўсім, і жаданнем спазнаць, што дзеецца навокал...

Экзамен па гісторыі СССР 23 чэрвеня ўсё-такі адбыўся. Групкі студэнтаў, седзячы за столікамі, рыхтаваліся адказваць на пытанні, што значыліся ў выцягнутых білетах. Экзаменатар К. Шабуня, член-карэспандэнт АН БССР, хадзіў па аўдыторыі, слухаў чарговага студэнта — то ўважліва, засяроджана, то, здавалася, неяк адчужана і ўзіраўся ўбок вакзала (адсюль, з трэцяга паверха біялагічнага корпуса універсітэта, ён быў як на далоні).

Надышла мая чарга, і я даволі бадзёра пачаў адказваць на пытанні, пастаўленыя ў білеце. Калі завяршаў гаворку па трэцім пытанні, у аўдыторыю з расчыненага вакна нечакана ўварваўся незразумелы гул. З кожнай хвілінай ён усё мацнеў і мацнеў і хутка быў заглушаны блізкімі разложыстымі выбухамі...

Мы ўсе кінуліся да акна і ўбачылі вакзал у стаўбунах дыму, пылу, агню. Знямелыя, узіраліся ў тое шаленства смерці, што тварылася так блізенька ад нас, на нашых вачах...

Гэта быў першы налёт на Мінск, першая яго бамбёжка.

Мы неахвотна пакінулі аўдыторыю і падаліся, хто куды. Вядома, ніхто з нас не ведаў, ці адбудзецца згодна раскладу чарговы экзамен. А хто мог уявіць, што праз чатыры дні ў горад уступяць немцы?..

Яшчэ некалькі налётаў на Мінск было зроблена ў той дзень. Бамбавозы скідвалі свой страшны груз на цэнтр горада, на важныя аб'екты, на жылыя кварталы, і шматлікія пажары бушавалі то тут, то там. На наступны дзень налёты былі больш масіраваныя і больш працяглыя. Горад палаў у моры агню, гмахі шматлікіх камяніц ператвараліся ў руіны...

У ноч з 24-га на 25-га чэрвеня група студэнтаў і выкладчыкаў універсітэта сабралася ў падвале хімічнага корпуса. Хаваліся ад бамбёжкі і думалі пераначаваць тут.

Сну, можна сказаць, і не было. Ці ж заснеш, калі творыцца такое, калі нервы напружаны да вышэйшай мяжы, калі ў кожнага з прысутных — знаёмых і незнаёмых — столькі ўражанняў ад перажытага сення, учора, пазаўчора і тыя ўражанні рваліся вонкі, ператвараліся ў расказы, якія гучалі ва ўсіх кутках таго прыстанішчасховішча...

Недзе каля поўначы адбыўся налёт — начны, які звычайна страшнейшы за дзённы.

Пад раніцу ў групе выспела задума-рашэнне — пакінуць горад і падацца на ўсход. Сярод нас быў рэктар універсітэта Парфен Савіцкі, ён санкцыянаваў гэтую задуму і ўзначаліў паход.

Як добра разв.днела, выйшлі. Выкіраваўшыся на Магілёўскую шашу, узялі курс на Магілёў.

Ісці з кожным днём рабілася ўсё цяжэй. Над Магілёўскай шашой, што сталася магістраллю, па якой у тыя пякельныя дні і ночы, ратуючыся ад фашысцкай навалы, няспынна імкнулі на ўсход людзі, фурманкі, машыны, — над тою шашой усё часцей і часцей сталі баражыраваць нямецкія самалёты. Знішчальныя бязлітасна секлі з кулямётаў, бамбавозы бамбілі. Нарэшце самалёты ўзялі дарогу пад такі кантроль, што рух па ёй удзень быў надзвычай небяспечны. Мы пачалі ісці ноччу, прабавіўшы дзень у якой-небудзь прыдарожнай вёсцы ці ляску.

Праз восем сутак наша даволі парадзелая група дабрыла да Магілёва. Было гэта 3 ліпеня. Фронт, пагрозна прасоўваючыся на ўсход, падступаў ужо да гэтых месц.

Недзе пад вечар мне ўдалося ўбіцца ў чыгуначны эшалон з фабрычным абсталяваннем, што эвакуіраваўся ў кірунку Масквы, і я пашыбаваў з ім у невядомасць.

Некалькі журботных дзён і начэй, незнаёмыя станцыі, мясціны, пра якія толькі чуў, і вось канцавы пункт нашага маршруту — сталіца Мардовіі Саранск...

Так я апынуўся сярод мардоўскага народа, знайшоў жыццёвы прыстанак у бязлітасны час вайны. Наведаўшы Міністэрства асветы, атрымаў накіраванне ў Ацямарскую сярэднюю школу, што месцілася недалёка ад сталіцы рэспублікі. Выкладаў рускую мову і літаратуру ў 5-10 класах.

Ды не надта доўжылася мая настаўніцкая сцежка-дарожка. У канцы лютага 1942 года мяне выклікалі ў ваенкамат, і праз пару дзён я ўжо быў у ваеннай форме...

У трапіў у школу малодшых камандзіраў, што размяшчалася ва ўрочышчы Вялікая Горка пад горадам Арзамасам



(Горкаўская вобласць). Месяцы праз два суровыя заняткі ў школе скончыліся. Я выйшаў з яе сяржантам, камандзірам мінамётнага разліку. Мог быць таксама кулямётчыкам, аўтаматчыкам.

Нас прывезлі ў горад Горкі. Там фарміравалася 192-я асобная танкавая брыгада, з якой мне і наканавана было прайсці ўсю вайну.

...Эшалоны нашай брыгады ішлі курсам на Маскву, спыняючыся толькі на буйных станцыях. "Зялёнай вуліцай" ішлі — мабыць, была на тое патрэба. Пасля Масквы, калі ўзялі кірунак на Калугу, зразумелі, што едзем на Заходні фронт. Выгрузіўшыся ў Сухінічах, далей падаліся сваім ходам — на танках і аўтамашынах.

Неўзабаве пасля з'яўлення ў вызначаны пункт брыгада была ўведзена ў бой.

Тое 5 мая 1942 года, тое баявое хрышчэнне нашы танкісты, якія прынялі яго і якім пашчасціла застацца жывымі, ніколі не забудуць. На фронце ўсялякае здаралася, а каб вось такое ды ў першым жа баі...

У той час на тым участку фронту сядытады адбываліся баі мясцовага значэння — на паляпшэнне пазіцый, на выхад да зручных рубяжоў. Падобная задача была пастаўлена 5 мая дзвюм танкавым брыгадам — нашай і суседняй.

Наша брыгада мела англійскія танкі — "Матыльда" і "Валянтайн". Гэта былі машыны з адметнай канфігурацыяй, рухавыя, увішныя. Недахопам іх — сур'ёзным — з'яўлялася тое, што працавалі яны на бензіне. Дастаткова было, каб у матор трапіла іскарка, як адразу ж успыхвала полымя, а неўзабаве — выбух, і гібель танка і экіпажа.

Брыгада суседзяў была ўзброена нашымі "трыццацьчацвёркамі" — слаўнымі машынамі, якія прайшлі ўсю вайну і надзвычай шмат зрабілі для разгрому гітлераўцаў.

У час бою здарылася так, што нашы танкісты прарвалі пярэдні край немцаў, на некалькі кіламетраў прасунуліся і павялі бой у глыбіні баявога рубяжа. У суседзяў выйшла затрымка, ім не ўдавалася зламаць супраціўленне праціўніка. Тузаючыся то туды, то сюды (мясцовасць была пералескавая), яны ўзбіліся на паласу наступлення нашай брыгады. Заўважыўшы сілуэты незнаёмых ім танкаў ("Матыльдаў" і "Валянтайнаў") і прыняўшы іх за варожыя, пачалі знішчаць іх. Набліжаючыся ледзь не ўсутыч, часцей за ўсё збоку і ззаду, гахалі і гахалі. Адзін за адным запалалі танкавыя кастры...

Праз пару гадзін у нашай брыгадзе з 48 танкаў у страі засталіся два...

Брыгада была знята з пярэдняга краю і адведзена на дафарміраванне. Атрымаўшы танкі — на гэты раз родныя "трыццацьчацвёркі", зноў накіраваліся на фронт, цяпер ужо Варонежскі.

Тым летам 1942 года, як вядома, гітлераўская армія ірвалася да Сталінграда і на Каўказ, і Варонежскі фронт быў у няспыннай баявой дзейнасці. Не выходзіла з баёў і наша танкавая брыгада. Адбіваючы шалёны напор немцаў, трымалі абарону на Доне.

Наступленне разам з іншымі часцямі на Белград, вызваленне яго, паход на Харкаў, адвод знясіленай брыгады для папаўнення, абарона на ўскраіне Белграда...

За кожным з гэтых сціслых паведамленняў — дні і ночы бязлітасных франтавых будняў, якія вызначалі і вырашалі ход тагачасных падзей і, вядома ж, вырашалі лёс яе ўдзельнікаў.

Пасля баёў пад Белградам наша брыгада некалькі месяцаў ваявала на Куршчыне. Ёй выпала з 5-га да 24-га ліпеня 1943 года ўдзельнічаць у слаўтай і грознай Курскай бітве — і на самым яе пачатку, калі ў шырокіх стэпах гэтага краю ўсчался танкавыя пабоішчы з удзелам многіх соцень браніраваных волатаў, і калі нашы войскі, вытрымаўшы надзвычайнай сілы шквал варожых атак, перайшлі ў контрнаступленне.

...Мне згадваецца поле бою, на якім толькі што адгрымеў вогненны смерч. Здратаваная танкавымі гусеніцамі зямля, з глыбокімі ранамі-варонкамі, нанесенымі бамбавозамі і цяжкай артылерыяй. Куды ні зірнеш — разбітая, зняверчаная, згарэлая тэхніка, якая зусім нядаўна была баявой і сама сеяла смерць: танкі, браневікі, гарматы, самаходкі... Вунь, крыху воддаль, тырчыць з зямлі чарнакрыжны хвост знішчальніка, што ўрэзаўся ў пульхную курскую ніву. А вось відовішча, якое давялося ўбачыць упершыню: два здыбленыя танкі, наш і нямецкі. Сутыкнуўшыся лбамі, яны, як тыя стаеннікі, узвіліся ў паветра і застылі ў мёртвай схватцы. Вядома ж, абодва згарэлі. Густа пафарбаваныя чорным куродымам, яны стаялі — нібы нядаўна адліты помнік-манумент. Непадалёк ляжаў вялікі, у рост чалавека, асмалак — тое, што засталося ад танкіста, невядома якога — нямецкага ці нашага: пасля сутычкі машын яму, ахопленаму агнём, мабыць, удалося выскачыць, крыху адбегчы і...

Так, у час Курскай бітвы, калі на лавіну нямецкіх танкаў выходзіла лавіна савецкіх, здараліся танкавыя тараны — самаахвярнасць нашых воінаў не ведала мяжы. Таму і сарвана была гэта старанна падрыхтаваная бітва, на якую Гітлер ускладваў столькі надзей! Не ўратавалі яго ад разгрому ні маса сцягнутых з іншых франтоў войск, ні звышмагутныя навінкі — танкі "Тыгр", самаходкі "Фердынанд".

Выведзеная пасля баёў на Курскай дузе на чарговае дафармаванне, наша брыгада пэўны час дыслацыравалася пад Тулай. Папоўніўшы асабовы склад, атрымаўшы патрэбную колькасць танкаў, накіравалася на фронт. Праз Калугу, Вязьму, Смаленск прыбыла на месца выгрузкі — станцыю Рудню. Адтуль нашы танкі і аўтамашыны ўзялі курс на Віцебск, на І-шы Прыбалтыйскі фронт, які знаходзіўся тады непадалёк ад гэтага горада. Там, ведучы баі мясцовага значэння, і праваявала брыгада познюю восень 1943-га года, зіму і вясну 1944-га.

Раніцой 23-га чэрвеня наш І-ы Прыбалтыйскі фронт разам з 3-м і 2-м Беларускімі рушылі ў наступленне — пачалася слаўтая стратэгічная аперацыя "Баграціён", у выніку якой была вызвалена ўся Беларусь, Прыбалтыка, частка Польшчы, нашы войскі дасягнулі граніц Нямеччыны.

За ўдзел у вызваленні Віцебска наша 192-я танкавая брыгада была ўдастоена звання гвардзейскай і ўзнагароджана ордэнам Суворава.

Пасля выгнання акупантаў з Віцебшчыны баявыя дзеянні брыгады перакінуліся на зямлю Латвіі, і мы ў раёне порта Ліепая выйшлі да Балтыйскага мора.

Капітуляцыя! Перамога!..

...Як студэнт-другакурснік універсітэта (у мяне цудам захавалася студэнцкая кніжка!) я восенню 1945-га вярнуўся ў Мінск. Завітаўшы ва універсітэт і афоміўшыся студэнтам трэцяга курса, адразу падаўся ў родны край — Старобіншчыну, наведаў маму і тату, сястру і двух братоў, па якіх так знябыўся за вайну... Больш за тры гады я нічога не ведаў пра іх: што з імі, ці жывенькія?..

Паспрабуйце ўявіць стан салдата, якому аднойчы на фронце паштальён уручыў пісямко з да болю знаёмым почыркам сястры і які дазнаўся, што дома ўсе жывыя і так хочуць, каб вярнуўся з фронту іх сын і брат...

Паступова ўсталявалася і пакаціла па звыклай каляіне непаўторнае студэнцкае жыццё: з радасцямі і засмучэннямі, з незабыўным і прыкрым — з усім тым на што багата маладосць.

Яшчэ будучы студэнтам універсітэта, я пачаў працаваць у газеце "Літаратура і мастацтва" (1947 г.) — літработнікам, загадчыкам літаратурнага аддзела. З 1955 да 1965 года з'яўляўся адказным сакратаром часопіса "Беларусь" (у той час — і намеснік галоўнага рэдактара). Шэсць гадоў (1965—1971 гг.) быў навуковым супрацоўнікам Інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР, тры гады (1971—1974) — загадчыкам літаратурнай часткі Белдзяржфілармоніі. З 1975 года да выхаду на пенсію (1988 г.) — навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР, літаратурны рэдактар шматтомнага выдання "Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі" (з 1985 г. там жа — адзін з удзельнікаў стварэння серыі кніг "Гісторыя населеных пунктаў Беларусі").

Друкуюся з 1947 года. Змяшчаў артыкулы, рэцэнзіі, нарысы ў газетах "Літаратура і мастацтва", "Звязда", "Советская Белоруссия", "Настаўніцкая газета", "Вячэрні Мінск", у часопісах "Полымя", "Беларусь", "Нёман". Выдаў манаграфію "Кузьма Чорны. Жыццё і творчасць". Сумесна з У. І. Агіевічам выдаў падручнік "Кніга для чытання ў другім класе школ рабочай і сельскай моладдзі" (1952 г.) і падручнік "Кніга для чытання ў трэцім класе школ рабочай і сельскай моладдзі" (1952 г.). Напісаў прадмовы да шасцітомнага збору твораў К. Чорнага, да выбраных твораў П. Глебкі, да твораў А. Гурло (1952 г., 1954 г., 1955 г.). Пераклаў 18-ы том са збору твораў У. Леніна.

У 1975 годзе вырашыў паспрабаваць свае сілы ў прозе. Нечакана пачаў пісаць раман. Адкуль такая адвага з'явілася, калі за плячыма не было ніводнага апавядання, — і сёння не сказаў бы. Яшчэ большай нечаканасцю для самога сябе сталася тое, што, старанна праштудзіраваўшы сем блакноцікаў сваіх франтавых запісаў, якія захаваліся ў мяне ад вайны, зноў і зноў вяртаючыся на пякельныя дарогі, пратупаныя ўласнымі нагамі, пісаць пачаў... пра Мінск часоў акупацыі, пра горад, дзе ў той час бываў толькі ў думках...

Пра тагачасную сталіцу рэспублікі ўжо ёсць дакументальная літаратура, шматлікія навуковыя даследаванні, а вось мастацкага твора, калі я пачынаў працу над раманам, не было. Ідучы па цаліку, цяжкасцей сустрэць давялося мноства. Хоць гэта быў і мастацкі твор, але ж грунтаваўся ён на канкрэтных падзеях, якія калісьці адбываліся на канкрэтных месцах у канкрэтным горадзе. Усё гэта ўжо сталася гісторыяй, і для творчай фантазіі аўтара разгон тут не надта шырокі. Вось спалучэнне гэтай дакументальнасці з мастацкім домыслам, са стварэннем пэўных літаратурных вобразаў-індывідуумаў і з'явілася найбольшай цяжкасцю.

У працэсе рэдагавання мне нават прапанавалася змяніць месца дзеяння ў рамане — хай гэта будзе не канкрэтны Мінск, проста горад з "літаратурнай назвай". Але гэта быў бы твор пра абстрактны горад, тыпізаваны, створаны творчым уяўленнем аўтара. Мне ж хацелася, каб у рамане чытач сустрэўся іменна з Мінскам, з горадам-пакутнікам і горадам-героем, які столькі перажыў за ваенныя ліхалецце, што подзвіг яго павінен быць увекавечаны і ў мастацкай літаратуры, дзе, вядома, сваё вельмі важкае слова скажуць творы з надзвычай шырокімі эпічнымі магчымасцямі — раманы. І я напісаў раман "Разгневаная зямля".

...Зусім натуральна, што я, зведаўшы Вялікую Айчынную вайну ад пачатку да канца, прайшоўшы пяць яе франтоў, не мог не паспрабаваць занатаваць тыя вогненныя шляхі-пуцявіны, тыя грымотныя дні і ночы.

Так нарадзілася кніга "Мая вайна. З памяці здабытае".

Гэта мастацка-дакументальны твор, заснаваны на ўспамінах-згадках пра зведанае мною ў бязлітасныя будні на пяці франтах, а таксама на падставе запісаў у франтавых блакнотах і дзённіках, якія я вёў і якія ўдалося захаваць.

Завяршаючы нататкі свайго жыццяпісу, нагадаю яшчэ некаторыя мае біяграфічныя падзеі:

У 1942 годзе на Заходнім фронце ўступіў у КПСС;

у 1954 годзе абараніў дысертацыю, стаў кандыдатам філалагічных навук;

у 1950 годзе быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

***НА ЗДЫМКУ: Іван КУДРАЎЦАЎ, 1980 г.; Заходні фронт, 1942 г.; жнівень 1944 г., Літва; з М. ЯГОРАВЫМ, які ўзняў Сцяг Перамогі над рэйхстагам.***



# УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ І ДАНТЭ АЛІГ'ЕРЫ

**Магчыма, такая пастаноўка тэмы здзіўляе. Але яна не дзеля гульні ў навуковасць узнікла і не з пальца высмактана. Маецца шэраг вельмі цікавых фактаў, якія патрабуюць увагі, а даследчыкамі пакуль што абміналіся.**

**Ці памятаеце вы, шаноўныя чытачы, што за кнігу насіў у кішэні галоўны герой аповесці "Дзікае паляванне караля Стаха"? Успомнілі. Так-так, Андрэй Беларэцкі "кішэнькавае выданне Дантэ заўсёды насіў з сабою". Выходзіць, для героя Уладзіміра Караткевіча, Беларуса (!), Дантэ быў настольнай, дакладней — "кішэнькавай" кнігай. Гэта, у дадатак, своеасаблівая тлумачыць стаўленне беларускага пісьменніка другой паловы XX стагоддзя да італьянскага паэта Адраджэння.**

**Праўда, Уладзімір Сямёнавіч, як і ў некаторых іншых выпадках, тут містыфікаваў сітуацыю. Справа ў тым, што на мовах, якімі мог валодаць гэты герой, кішэнькавага выдання Дантэ, здаецца, у прыродзе не існавала.**

**Вельмі цікавым нам падаецца той факт, што неаднаразова ў творах Уладзіміра Караткевіча мы сустракаемся з алюзіямі на вялікага фларэнційца і яго творчасць. У той жа аповесці яшчэ раз згадваецца імя вялікага італьянскага паэта — пры апісанні лесу вуснамі галоўнага героя: "Чорт ведае які дурань вырашыў насаджаць у такім змрочным месцы яліны, але гэта было зроблена, і дрэвы, якім было ніяк не менш за сотню год, зрабілі мясцовасць толькі трошкі больш прыемнай, чым славуты лес у Дантэ".**

**Але навошта адбываецца зварот да імя фларэнційца ў творы? Няўжо гэта не нясе ніякага дадатковага сэнсу? Хутчэй за ўсё, Уладзімір Караткевіч выкарыстоўвае згадку пра дантаўскі лес дзеля таго, каб даць чытачу твора як мага больш поўную характарыстыку галоўнага героя, канкрэтна — падкрэсліць яго адукаванасць. Так што, здавалася б, такая дробязь, а можа мець значэнне.**

**Ды Уладзіміра Караткевіча ўсе мы ведаем не толькі як празаіка, але і як таленавітага паэта. І ў вершах яго таксама ёсць шэраг алюзій на Дантэ Аліг'еры. Ёсць, дарэчы, твор з назвай "Апошняя песня Дантэ", напісаны ў 1961 годзе і прысвечаны Арлену Кашкурэвічу — непаўналетняму вязню гета і канцлагера. Пачынаецца верш так:**

***У пошуках за любай і адзінай,***
***Спазнаўшы круг апошні,***
***мы прыйшлі...***

**Думаецца, не трэба тлумачыць, што каб назва адсутнічала, усё роўна больш-менш дасведчаны чытач суаднёс бы гэтыя радкі з пачаткам "Боскай Камедыі".**

**Але дзеля такога суаднясення важны і працяг:**

*********
***Туды, дзе льдзіны адлівалі сінім,***

***У нетры той нязведанай зямлі,***
***Дзе нават пекла ўлада асяклася,***
***Дзе павуціння д'яблы не плялі***

***На душы самых горшых, тых,***
***што гасяць***
***У чалавеках праўду і любоў (...)***

**Відавочна, што гэта твор, які не толькі паводле формы — а перад намі ж верш, структураваны тэрцынай, — але таксама паводле зместу і агульнага пафасу знаходзіцца ў полі прыцягнення "Боскай Камедыі" Дантэ. Тут У. Караткевіч нават падкрэслівае быццам бы другаснасць свайго аўтарства: нездарма ў назву вынесена, што гэта "песня Дантэ", прычым "апошняя"; такім чынам як бы сцвярджаецца, што адзін толькі Дантэ Аліг'еры здольны па-сапраўднаму, як гэта зрабіў ён, апісваючы пакуты грэшнікаў у "Пекле", адлюстраваць тыя пакуты, што беларускаму народу прынесла вайна.**

**Уладзімір ЧАРОТА**



# ПОСТАЦЬ. АСОБА. МАСТАК.

***Памятаю. Але не памятаць немагчыма. Званок ад Рыгора БЯРОЗКІНА. "Зайдзіце да нас у рэдакцыю "Нёмана". Рыгор Бярозкін... Не проста таленавіты крытык — так бы мовіць, зубр крытычнай думкі, адно с першых пёраў Беларусі. Чалавек драматычнага лёсу. Арышт перад Айчыннай вайной, вайна — не абы-які маршрут (хаця лёгкіх там не было): Курская дуга, Сандамірскі плацдарм, баі пад Сталінградам, пад Кіевам, у Карпатах; узнагароды: ордэн Айчыннай вайны II ступені, ордэн Чырвонай зоркі, медалі. І пасляваенная "падзяка" — арышт у 1949 годзе, паводле таго ж абвінавачвання: антысавецкая дзейнасць. Вызвалены, рэабілітаваны... Біяграфія для рамана... Для фільма...***



Вось да гэтага чалавека шыбую я. З піетэтам. Што мае канкрэтны накірунак. Бо ў мяне перыяд жорсткага скептыцызму. З аднаго боку, я неафіт — нейкія там публікацыі, з другога — чытач, што ацэньвае ўсё выключна, паводле гамбургскага рахунку, з трэцяга — маю вопыт (невялікі пакуль) рэдактарскай працы ў акадэмічным выдавецтве, які шмат у чым пахіснуў маю веру ў навуку і літаратуру.

Аднак... Аўтарытэты для мяне ёсць. І не толькі сусветнага маштабу. У тым ліку — гэты чалавек. Бярозкін ёсць Бярозкін.

Пачынаю з гэтага выпадку, між іншым, не таму, што хачу высветліць сваю лінію прыналежнасці да літаратурнага працэсу, а таму, што гэта дзелавая сустрэча надзвычай ярка характарызуе Рыгора Бярозкіна.

Мяркуйце самі.

Дык вось — уваходжу я ў памяшканне рэдакцыі часопіса, у аддзел Рыгора Бярозкіна, які, дарэчы, тады вёў і крытыку, і паэзію. Пакой паўнюткі людзьмі. Бачу сярод іх Мікалая Ігнатавіча Крукоўскага, філосафа (толькі што выйшла яго кніга "Логика красоты"), Алега Аркадзьевіча Сурскага, мастацтвазнаўцу... Гаворка ідзе ажыўленая... Клуб творчай інтэлігенцыі... Імправізаваны. З-за стала падымаецца высокі чалавек з выразным тварам — Рыгор Саламонавіч Бярозкін. Было ў ім нешта ад **барына** — не пан, не чыноўнік высокі, менавіта — **барын**. Адукаваны, з густам, з добрымі манерамі. Добразычлівы, спагадлівы, крыху звысоку — аднак выключна з намерам рабіць дабро.

Дамаўляемся пра аглядны артыкул года: апавяданне. Часу — адзін тыдзень. Я працавала — з 9 да 18. І быў толькі адзін выхадны. Цяпер я разумею — нехта яго падвёў, тэрміны "гарэлі", а тут я. "Пішыце так, як быццам у вас процьма часу", — даў ён мне параду. Сёння я таксама згадваю яе. Мудрая парада.

Артыкул атрымаўся апісальны, пералічальны. Аднак я з наіўнасцю неафіта напісала ўсё, што думала. Расшчапала на фельетонны капыл рэдактара аднаго з часопісаў (яго апавяданні), загадчыка аддзела другога выдання (добры публіцыст, між іншым, і чалавек — таксама, аднак ад ацэнкі яго апавядання і сёння не адракуся). Самае дзіўнае — усё гэта пайшло з колаў. І нават не надрукавалі ўжо перакладзенае для "Нёмана" апавяданне, пра якое я вяла гаворку. (Галоўным рэдактарам тады быў Андрэй Макаёнак).

Мне доўга давялося працаваць рэдактарам, у тым ліку і на месцы, якое тады займаў Рыгор Бярозкін. Не ведаю, хто б так незаангажавана, смела, без уліку інтарэсаў тусоўкі ці пэўных колаў, надрукаваў бы пазней гэткі артыкул, ды яшчэ і нікому не вядомага аўтара. А існавала толькі чатыры часопісы. Зразумела, дзяржаўныя: сярэдзіна 60-х гадоў.

Мне сказалі, што я аблаяла ўсю (?) беларускую літаратуру. Што гаварылі Рыгору Саламонавічу — магу сабе ўявіць.

І разумею, чаму не далі яму аніякай прэміі, аніякіх званняў пры жыцці. Не далі і пасмяротна. Яго любілі і не любілі пры жыцці, любілі і не любілі пасля смерці.

Хаця яго было за што ўганараваць. Паводле літаратурных заслуг. Паводле напісаных і надрукаваных кніг: "Паэзія праўды", "Спадарожніца часу", "Свет Купалы", "Постаці", "Кніга пра паэзію", "Аркадзь Куляшоў", "Звенні"... Сур'ёзны і грунтоўны аналіз, ясная думка, веданне тэорыі паэзіі, выразны стыль. Чуццё паэзіі, веданне яе, тонкі густ, уменне ўлоўліваць асацыяцыі — не прыцягваць параўнанні штучна, а ўсведамляць існыя супадзенні, сутнасныя. Яму былі чужыя цяжкі педантызм і эстэтычная схаластыка. Ён умеў пабачыць свет і ўсё ў ім у першапачатковай свежасці, нібы ўпершыню.

Разумею, што сёння, чытаючы Рыгора Бярозкіна, нехта заўважыць педаліраванне грамадзянскіх матываў, абавязковае сацыяльнае вызначэнне праблематыкі і тэматыкі... Аднак калі мы згадаем час і біяграфію Рыгора Бярозкіна, дык зможам толькі падзівіцца некаторым яго творчым — непрыхільнасцям, напрыклад.

Гэта было асабліва відаць у непасрэдных рабочых стасунках з ім. Мне давялося быць рэдактарам дзвюх апошніх прыжыццёвых кніг Рыгора Бярозкіна. Рыхтавалі "Кнігу пра паэзію". Ён пабыў на нейкім банкеце, прыходзіць:" Пачакайце здаваць рукапіс. Я абавязкова хачу напісаць пра гэтага паэта. Такі цудоўны чалавек!" Паэт гэты быў ва ўсіх на вуснах, у вялікіх чынах, на вялікай пасадзе.

Праходзіць тыдзень, мінаецца другі. Мяне ўжо на ўсіх планёрках згадваюць зусім, мякка кажучы, не лепшым чынам: трэба здаваць. З'яўляецца Рыгор Саламонавіч: "Не, не магу! Не магу!" Я разумею яго... Было і наадварот: крыху раней. Артыкул пра Пысіна зроблены. Бярозкін едзе ў Магілёў. Вяртаецца. "Не, нічога не дадам". Чалавек Пысін яму не адкрыўся. (Згадаю тут эсэ Карамазава, захопленыя ўспаміны Гаўрусёва: "Якія вогнішчы мы палілі ў Каралішчавічах з Аляксеем!") Аднак паэзія паэта — і залежная, і незалежная ад тых асабістых уражанняў (ці адсутнасці іх). І для Бярозкіна гэта было правілам, калі не законам.

Ці быў ён заўсёды справядлівы? Не ведаю. Ведаю, што ён быў чалавек эмацыянальны, умеў захапляцца, умеў не любіць, часам зусім беспадстаўна. Напрыклад, адзін крытык на ўсіх пасяджэннях і нарадах абураўся тым, што такі літаратар, як Бярозкін, застаўся без працы, або працуе ў нейкім зусім "няпрофільным" выданні. А Бярозкін наўрад ці кінуўся б таго абараняць... Мяркуючы, якія атэстацыі ён таму выдаваў...

Дарэчы, што іх абодвух аб'ядноўвала — звычка да акуратнасці і пунктуальнасці. Рукапісы яны прыносілі ў выдавецтва: хоць на выставу выпраўляй. Былі ўважлівыя да кожнага слова. І, дарэчы, Рыгор Бярозкін, прынёсшы рукапіс у выдавецтва, пасля прачытання заўсёды праз нейкі час заходзіў і трывожна пытаўся: "Ну, як? Добра? Гэта праўда?" Рэдактар — першы чытач. Так, устрывожана, памятаю, ставіўся і Іван Мележ, калі ішла яго кніга "Жыццёвыя клопаты". Адказнасць за зробленае. Увага да кожнай дробязнай праўкі. Зразумела. Асаблівa ў параўнанні з адным, напрыклад, тэатразнаўцам, які махаў рукой: "Мяне са сцэны чытаць не будуць". Або, тым больш драматургам, які мне абвясціў: "Вы беларускую мову лепш ведаеце".

...Прагляадваю кнігі Рыгора Саламонавіча. Згадваю яшчэ. Неяк спытала, якім ён усё ж пісьменнікам сябе лічыць. Беларускім. Адказ быў адназначны. Хаця пісаў ён на трох мовах: беларускай, рускай і яўрэйскай. І гэтыя яго кнігі — таксама адказ на пытанне.

Зноў вяртаючыся да праблемы — час і асоба. Як пісаў бы Рыгор Бярозкін, каб не арышты, не цэнзура, каб іншы час... Хаця не думаю, што Рыгор Бярозкін з яго характарам і бескампраміснасцю пачуваў бы сябе духоўна камфортна ў сённяшні гістарычны момант. Ці выходзілі б у яго кнігі?

Зрэшты, і тады таксама далёка не ўсё было гладка. Раскаваная, свабодная форма яго пісьма, імкненне шукаць не "жыццёва-даставерныя і праўдзівыя" (любімы штамп графаманаў да пісьма), а "гіпнатычнае абаянне" строф, "мастацкі (ўсё ж! — **А. С.**) змест творчасці", "эстэтычныя палітывы" — гэта не падабалася многім "турам пяра" (выраз М. Стральцова).





Але затое яго эстэтычны слых быў неаспрэчны для Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі. Яго слова пра паэта было знакам сапраўднага прызнання. Яго слова было вызначачасцю ў той сістэме каардынат, дзе было месца толькі для сапраўднага. Ці быў той камертон суцэльна і адзіна верным? Мабыць, не. Аднак сумленным крытык і чалавек Рыгор Бярозкін быў заўсёды. Я наўмысна пазбягаю слова "шчыры". Гэтае паняцце ў сваю пару так зацягалі і так дэвальвіравалі, што яно сталася эквівалентам спрошчанасці і прымітыўнасці. Да Рыгора Бярозкіна тое не мае аніякага дачынення.

Рыгор Бярозкін быў неашчадна-імклівым, вёў спосаб існавання "нерасчетливый" (Б. Пастэрнак). Працаваў шмат, на знос. Апошнія гады, зарабляючы на жыццё сям'і ўнутранымі рэцэнзіямі для выдавецтва. "Я не ўмею адпачываць", — скардзіўся ён неяк, прыехаўшы з Дома творчасці. Затое ўмеў працаваць. Захапляцца. Жыць у рытме свабоднай творчай асобы. Вольнай думкі. Арганізаванай імправізацыі. Высокіх перажыванняў. Такім высокім перажываннем Рыгор Бярозкін вызнаваў мову. І не ўстрымаюся тут, каб не працытаваць, як Рыгор Бярозкін канкрэтна вядзе размову: звярнуць увагу на тое, што не састарэла ніводнае слова.

"Так, стылёвая палітра Купалы спыняе ўвагу сваёй незавершанасцю і стракатасцю; розныя тэндэнцыі перабіваюць адна другую, несучы не проста розныя — часам супрацьлеглыя характарам, тыпам лірычныя светаадчуванні.

Ёсць, аднак, прыкметная дамінанта, якая, не знімаючы стылёвай "раскіданасці" Купалавай паэзіі, лучыць усе яе элементы, і гэта дамінанта — Купалава моўная творчасць, яго радасная эмоцыя ўлады над моваю, яго імкненне "выпытаць" усе без вынятку экспрэсіўныя магчымасці слова. (...)

Карыстаючыся аналогіяй з арбітальным караблём, можна сказаць, што Купалава сістэма, як высока яна ні ўзнімалася, ніколі не адключала першай ступені — першага дотыку да слова, да схаваных у слове творчых сіл і патэнцый".

Рыгору Бярозкіну было падуладнае і ўласцівае тое, што ўмеюць спалучыць нямногія. На тую пару асабліва. І глыбіню аналізу, і тэарэтычныя высновы, і свабоднае валоданне мастацкім словам. З яго сучаснікаў гэтым валодалі, мабыць, толькі Уладзімір Калеснік і Алесь Адамовіч (хаця Адамовіч займаўся прозай). Ды ў тэатральнай крытыцы — Барыс Бур'ян і Георгій Колас. Янка Брыль і Алена Васілевіч — гэта ўжо тое, што вызначаюць як "пісьменніцкую крытыку", а Міхась Стральцоў — іншае пакаленне і таксама "траісты" майстар: паэт, празаік, крытык.

Аб'ядноўвала іх усіх яшчэ і няўменне заключаць "кантракты са сваім сумленнем" (А. Чэхаў). За гэта звычайна жыццё прадстаўляе асобы рахунак... Як і за перажытае...

Сюжэт жыцця Рыгора Бярозкіна насычаны драматычнымі калізіямі, і фінал быў не менш драматычны. Хвароба па сутнасці выкрэсліла яго з жыцця яшчэ да фізічнай смерці. Чалавек яго інтэлекту — і поўная страта свядомасці. Ці амаль поўная.

А пакінуў ён гэты свет у 1981 годзе.

Член Саюза пісьменнікаў з 1939 года, у 20 год — загадчык аддзела крытыкі вядучага часопіса Беларусі "Полымя рэвалюцыі". Выдатны крытык. З тых, хто разумеў, што такое прыгожае пісьменства. Паэт у душы. Тонкі знаўца і даследчык паэзіі. Нездарма кніга, якую намаганнямі яго ўдавы, сябра, калегі, крытыка Юліі Канэ выдалі ў 1989 годзе, называлася — "Паэзія — маё жыццё". Лепш не скажаш.

Гэта застанецца ў нашай памяці. Як і тое, што Рыгор Бярозкін — постаць, асоба, мастак.

**Ала СЯМЁНАВА**

*НА ЗДЫМКАХ: Рыгор БЯРОЗКІН; на IVз'ездзе СП БССР: П. КАБЗАРЭЎСКІ, Р. БЯРОЗКІН, Н. КІСЛІК, Р. БАРАДУЛІН, А. ВЯЛЮГІН, У. ДУБОЎКА, Ю. БАГУШЭВІЧ, 1959 г.; з П. ПАНЧАНКАМ у Каралішчавічах, 1965 г.*



***Як бачым, усё-ткі не вельмі й памяркоўныя гэтыя беларусы — мы з вамі, значыць. Прынамсі, у літаратуры. Змяшчаючы чарговую крытычную рэцэнзію, спадзяёмся, аднак, што ў нашых "крытыкаў" нарэшце з'явяцца і свае "апаненты"... Каб не выглядала распачатае намі нейкай "абавязковай кампаніяй" альбо "чысткай-зачысткай" літаратарскіх шэрагаў... Азірнёмся ж і пільна ўгледзімся ў сваё і "чужое", ды сур'ёзна паразважаем над нашым творчым плёнам. Дзеля агульнай карысці. Чакаем допісаў.***

**АДДЗЕЛ КРЫТЫКІ**

# ЦЕСНА ПЕСНІ Ў ДУШЫ...

У практыцы сповездзі бывае такое: гаварыць, здаецца, асабліва няма чаго. А з іншага боку — тыя, каго потым назвалі святымі, і адпаведна грахоў у іх было нашмат менш, чым у звычайных людзей, бачылі ў сабе грахоў болей, чым зорак у небе.

Нейкая аналогія ў гэтым убачылася мне пры прачытанні зборніка вершаў Віктара Вабішчэвіча "Чорны боль". Здаецца, усё слушна, правільна, але не кранае, не выклікае водгуку ў душы. Калі ж прыгледзецца больш пільна, становіцца зразумелым і тое, чаму не кранае.

Вершы з гэтага зборніка можна размеркаваць па наступных тэмах: чарнобыльская, грамадзянская вершы, вершы пра Італію, пра каханне і філасофскія. Амаль усе яны створаны ў рэчышчы беларускай літаратурнай традыцыі. Вядома, уся сусветная літаратура — перапеў адных і тых жа тэм. Але задача аўтара — убачыць іх па-іншаму, па-новаму — і сваё бачанне выказаць нечакана. Вершаў чарнобыльскага і грамадзянскага тэмату ў літаратуры ўжо нямала. В. Вабішчэвіча, безумоўна, гэтыя тэмы хваляюць (таму і піша іх), але чытач наўрад ці знойдзе тут штосьці новае. Таму што заклікі да абуджэння нацыянальнай свядомасці гучалі ўсё XX стагоддзе, і творы Віктара не вылучаюцца сярод такога вялікага сонму галасоў. Тое самае можна сказаць і пра вершы чарнобыльскага тэмату. Вершы грамадзянскага тэмату можна падзяліць на песімістычныя і аптымістычныя. У першых аўтар вінавацціць і часам пагражае нацыянальна несвядомым людзям, а ў другіх піша прыкладна такое:

*Мы прыйшлі да вас*
*непрыкметнымі,*
*А зрабіліся інсургентамі*
*Пад штандарамі станем вольнымі,*
*Панясём мы іх па-над гонямі.*

*І над гонямі будзе спеў лунаць —*
*Спеву нашага болей не суняць,*
*І не знішчыцца ён у полымі,*
*Як не станем мы дзецьмі кволымі.*

Творы пра Італію і пра каханне, шчыра кажучы, не ўразілі таксама. У першых, каб не назвы, невядома, ці можна было б зразумець што гэта творы менавіта пра гэтую паўднёвую краіну.

## ФЛАРЭНЦЫЯ

*Я душу запаліў*
*Ад праменняў тваіх.*
*Несмяротны матыў*
*Аб жыцці — для жывых.*

*Вежы храмаў, крыжы,*
*Перазовы званоў*
*Паўстаюць на мяжы*
*Летуценняў і сноў.*

Верш, можа, і някепскі, але так можна напісаць пра любы старажытны еўрапейскі горад, нават пра некаторыя беларускія. У творы "Наіўная мелодыя Тасканы" ўвогуле ні згадкі пра Таскану. Такое і жывучы пад Баранавічамі можна напісаць.

Але найменш удалыя ў зборніку — філасофскія вершы, якія і да вершаў не надта падобныя. У творы "Час і прастора" аўтар аперыруе такімі паняццямі, як час, прастора, ісціна. Верш даволі вялікі, аднак, у ім няма глыбіні, неабходнай для філасофскага твора.

## ЧАС

*Растаў над пляцам*
*І разліўся нябачнымі ручаямі*
*Па гарачых вуліцах,*
*І ніхто ў гэты дзень не заўважыў*
*Знікнення яго вялікасці Часу.*

І г.д.

З цяжкасцю ўяўляецца, як час мог знікнуць (время исчезло), у нашых вымярэннях такога не бывае.

*Гарэлі-палымнелі кнігі*
*Вакол вогнішчаў здзічэлa скакалі*
*Скамянелыя жывыя істоты.*
*Кнігі ўсе потым вярнуліся да нас —*
*Знойдзеныя ў закінутых куточках,*
*Захаваныя ў легендах і казках,*
*Узрошчаныя самой зямлёю,*
*Абмытыя слязамі нядбайных,*
*Адроджаныя з дыму і попелу*
*Яны ажылі і загаварылі.*
*Толькі ніколі не вернуцца*
*Душы тых, хто знішчаў кнігі,*
*Хто хацеў зруйнаваць памяць.*

Напісанае выклікае сумнеў. Невядома, якія душы вяртаюцца, якія — не, калі яны ўвогуле кудысьці вяртаюцца. (Ісус на крыжы дараваў злачынцу.) І кнігі не ўсе вярнуліся, многія ніколі не вернуцца.

Яшчэ большае непаразуменне выклікае твор "Згадка з часоў мінулых". Тут апавядаецца, як лірычнага героя "злосныя служкі". Сета панеслі на ігрышча, выцягнулі з яго вантробы, якія паклалі ў чатыры ночвы (для чатырох ночваў вантробаў ёмкага быка ці хопіць), а ўсё астатняе выкінулі. Але ягоная душа "ўзбунтавалася і паўстала", у выніку чаго вантробы, "усё астатняе" і душа зноў з'ядналіся ў адно цэлае. І —

*Доўга яшчэ пасля гэтага*
*Чулася скавытанне і выццё*
*Крывавых хаўруснікаў.*

Дарэчы, чыіх хаўруснікаў (па-руску "союзников"), застаецца незразумелым, дакладней, з тэксту атрымліваецца, што хаўруснікі лірычнага героя.

Увогуле ж, у зборніку ёсць больш удалыя ("Асыпаецца жоўтае лісце". "Даліна палыну і чамярыцы", "Лілеі — дзявочыя душы", "Адшумела чаромха за лесам", "Я цябе намаляваў на снезе" і інш.) і менш удалыя творы, але энергетыка ў іх — мінімальная.

Гэта ўсё, канечне, на мой суб'ектыўны погляд. Хтосьці, можа, ацэніць творы па-іншаму.

Час ад часу ў вершах сустракаюцца наступныя хібы:

1. Неадпаведнасць рэчаіснасці.

*Без жалейкі і гуляў не было*
*Беларусі,*
*А цяпер Беларусь — без душы.*
*Абмінаюць зямлю нашу*
*вольныя гусі —*
*Нечуваны іх сум прыдушыў.*

Вольныя гусі нашу зямлю не абмінаюць, хіба толькі нацыянальна-свядомая іх частка.

*Не кажы, што Беларусь малая, —*
*Краю большага на свеце*
*не знайсці.*

Краёў, большых за Беларусь, шмат. Калі ж аўтар хацеў сказаць пра гэта метафарычна, то з твора тое не выяўляецца.

2. Выпадковыя словы, радкі.

Дзеля формы твораў Віктар часам піша словы ці радкі, якія не зусім там да месца.

*Незнаёмая зашуміць трава —*
*Не пачуе ніхто каліну.*
*На заморскі лад прывітаюць вас*
*І ў бядзе адзінокіх пакінуць.*

Выпадковым мне тут падаецца другі радок, а калі ўдумацца, то і смешным.

*Цішыня над пакутнай ракой.*

Чаму рака "пакутная"? (У творы пра гэта ні згадкі.) Можа, таму, што аўтар не знайшоў лепшага слова? Можна было напісаць "павольнай", а калі рака не павольная, то — "імклівай".

*І ты лавіла кожны погляд мой*
*І мне пяшчоту рук сваіх дарыла,*
*А над півоняй узышло ярмо,*
*А птушка юная згубіла крылы.*

Два апошнія радкі, мне здаецца, напісаныя проста дзеля "дагрузкі" страфы. Я ўжо не кажу пра іх якасць.

3. Няўдалыя мастацкія сродкі.

*Дайце мне крыж —*
*Не карайце маўчаннем.*

Пры чым крыж да маўчання?
*Стогне народ, да скалы прыкуты.*

Да скалы быў прыкуты Праметэй. А для народа адной скалы мала.

*Не чуюць*
*гаротнага стогну зямлі.*

Вельмі даўно і працягла стогне зямля ў беларускай вершатворчасці, таму падобныя радкі спачування ўжо не выклікаюць.

*У пацалунках гіне маладосць.*

Па-мойму, без пацалункаў гіне маладосць, а калі ў пацалунках — дык дзякаваць Богу.

*Пасаліла слязою,*
*Што ў бярозы ўзяла.*

Пасаліць слязою, узятай у бярозы, нельга: несалёны бярозавы сок.

Хапае і іншых прыкрых недарэчнасцяў.

А спадабаўся мне вось гэты твор:

## ЭПІТАФІЯ

*Яшчэ*
*З эпох Ура і Лагаша*
*Застаўся людзям запавет,*
*Які гаворыць пазалотай і дагэтуль:*
*— Мы,*
*Забітыя*
*Рукамі несправядлівых,*
*Не жадаем такой смерці*
*Сваім забойцам.*

Добра, што В. Вабішчэвіч прыгадвае люду, што існавалі старажытныя дзяржавы Ур і Лагаш і гэтыя мудрыя і міласэрныя словы.

**Наталля КАПА**

# «НАША ВЕРА» Ў НАШЫМ СЛОВЕ

***Пазамінулую сераду ў памяшканні Саюза кампазітараў адбылася прэзентацыя Бібліятэчкі часопіса “Наша вера”.***

Невялікая камерная зала ўсё-ткі ўмясціла найбольш актыўную частку хрысціянскага культурнага бамонду і аўтарскага актыву каталіцкага выдавецтва "Про-Хрысто".

Вельмі гарманічна выстраеную сустрэчу выдаўцоў, аўтараў і чытачоў з густоўным досціпам і тактам вяла галоўны рэдактар часопіса і ўсёй бібліятэчнай




серыі абаяльная жанчына, пісьменніца Хрысціна Лялько.

Якраз напярэдадні прэзентацыі пабачыла свет чацвёртая кніжачка серыі "Маці Божая Снежная" ў Беларусі" (гэтым разам выдадзеная як ілюстраваны альбом копіяў з вядомага абраза рымскай базылікі Санта Марыя Маджорэ, што захаваліся ў хрысціянскіх храмах Беларусі). Гэтае шыкоўнае выданне абрамленае выбітным па змесце і стылі артыкулам нашага знанага мастацтвазнаўцы Аляксандра Ярашэвіча ды гістарычнымі і іканаграфічнымі звесткамі да ілюстрацый.

На прэзентацыю прыехалі аўтары, а яны пераважна перыферыйныя: Ірына Жарнасек з Наваполацка (кніжка прозы "Гадара"), Данута Бічэль з Гародні (зборнік духоўных вершаў "На белых аблоках сноў"), Мар'ян Дукса са Смаргоншчыны (кніга паэзіі "Прыйсці да алтара") і вышэй згаданы мінчанін Аляксандр Ярашэвіч. Яны адказвалі на пытанні, чыталі свае творы, дзяліліся мастацкімі задумамі. А свае ўражанні ад іх кніжак перад прысутнымі выказалі крытык Ала Сямёнава, пісьменнік Франц Сіўко, літаратар Леанід Галубовіч, доктар архітэктуры Тамара Габрусь...

Вельмі хораша і дасціпна быў зрэжысіраваны вядучай прэзентацыі Хрысцінай Лялько канцэртны антураж вечарыны. Ярка і вобразна дапасоўвалі літаратурныя вобразы пісьменнікаў і паэтаў вядомая наша артыстка Галіна Дзягілева, а таксама заслужаная артыстка Беларусі Ірына Шуміліна, скрыпачка Соф'я Голуб, гарадзенскія барды Вольга Хвашчынская, Вікторыя Назаранка і гітарыст Сяргей Фінскі...

Цёплая, сяброўская атмасфера агульнага душэўнага і духоўнага паразумення доўжылася яшчэ і ў рэдакцыі "Нашай веры", дзе прысутныя маглі набыць кніжкі і часопісы выдавецтва "Про-Хрысто", абмяняцца думкамі і ўражаннямі, а, у рэшце рэшт, проста пабачыцца, пазнаёміцца і наладзіць кантакты, каб і надалей не губляць сваёй веры і надзеі на лепшае.

ЛеГал



Браніслаў СПРЫНЧАН



# ЛІРЫЧНАЙ ПРОЗАЙ ЗЗЯЮЦЬ РОСЫ...

## МУЗЫКА ПАЛЁЎ

*Яшчэ не браліся касіць, —*
*Адкуль жа музыка такая?*
*А гэта сонца так іграе —*
*Са збожжам ніву залаціць.*

*Душу настрой,*
*каб неўспадзеў*
*Да поля слыхам прычасціцца:*
*Свая мелодыя ў пшаніцы,*
*І ў жыта свой адвечны спеў.*

*Як перапёлак “піць-палоць”,*
*Авёс звініць і плача ў полі, —*
*Так і жыццё перапляло*
*Матывы радасці і болю...*

*Ячменю пышныя вусы*
*Пяшчотай шэпчуць*
*на змяркканні, —*
*Нібы ў юнацкія часы*
*Палоняць сэрца хваляваннем.*

*Палі, палі ва ўсе канцы,*
*Лірычнай прозай зззяюць росы,*
*Калі, нібыта шаргунцы,*
*Гайдаюцца мяцёлкі проса.*

*Мне радасці не трэба шмат —*
*Адно адчуць у шматгалоссі:*
*Чым важкасць большая ў зярнят,*
*Тым мілагучней спеў калосся...*

*Хоць і чакаеш — ды ідзе*
*Заўжды раптоўна прыпар жніўны,*
*І ўжо ў людзей*
*прыбраны нівы, —*
*Што ж, на чарзе —*
*і мой надзел.*

*Душа, не трэба сумных сноў,*
*І лёсу выпрамім заломы!..*
*Як скрушна шамаціць салома*
*Ў адвечнай музыцы палёў...*

## МІРСКІ ЗАМАК

*Над рэчкай,*
*пры вузкай даліне*
*Стагоддзі натхнёна злучылі*
*З палётам гатычных ліній*
*Красу беларускага стылю.*

*Дзе дах аблачынку калыша,*
*Мой позірк агляд пачынае:*
*Як клавішы,*
*белыя нішы*
*Па сценах чырвоных спадаюць.*

*І рытмаў, і фарбаў загадкай*
*Вясёлы арнамент чаруе.*
*Падмурка валунную кладку*
*Пагляд на трываласць спрабуе.*

*Гляджу я і дойлідаў слаўлю,*
*Гляджу й ганаруся майстрамі,*
*І мройліва побачкі стаўлю*
*Стагоддзі ў жывой панараме.*

*Спазнаў і нашэсці,*
*і беды —*
*Адзначыў іх замак нядрэмны:*
*Марціры французаў і шведаў*
*Адбіліся ядрамі ў сценах.*

*А з вежаў —*
*сустрэчныя ўдары.*
*Прыжмурся —*
*й мінуламу збыцца:*
*Суровыя віцязяў твары*
*Пабачыш у кожнай байніцы.*

*Заходняга сонца прамені*
*І вежаў чырвоныя грані —*
*Паслухай:*
*у такт летуценням*
*Іграюць,*
*як трубы ў аргане.*

*Вячэрняга бусла клёкат,*
*Ільсністае пер'е,*
*кальчугай,*
*І рэха над замкам і лугам —*
*Як водгук эпохі далёкай.*

## РУКІ МАМЫ...

*Рукі мамы пахнуць малаком,*
*Кропам пахнуць*
*і духмянай мятаю,*
*Што кусціцца*
*ў халадку за хатаю*
*Ля каліны*
*пад маім акном.*

*Дзе б ні быў,*
*а бачу я заўжды*
*Рукі мамы:*
*то з матыкай-бліскаўкай,*
*То з сярпом,*
*а то з цыбульнай нізкаю,*
*То са шчаўем,*
*то з лісцём рудым.*

*То яна, гадам наперакор,*
*Днюе за акучкай ды праполкаю,*
*То любоўна спрытнаю іголкаю*
*На кашулі вышывае ўзор.*

*Падбірае колеры яна,*
*Каб квітнелі ў радасці вясенняй,*
*Каб зімой блукалі летуценні*
*Па дарожцы белай палатна.*

*Галаву схіліла, а рука*
*Пад скупую песню завірухі*
*Рассыпае абярог ад скрухі —*
*Крыжыкам —*
*пялёсткі васілька.*

*Лёгкія адценні, мяккі тон...*
*Кветка-сон да сонца*
*лёгка хіліцца, —*
*Вось яшчэ імгненне —*
*і раскрыліцца*
*Сінявой напоўнены бутон.*

*Побач — ружа росная ў палон*
*Пачуццё бярэ чырвонай гамай.*
*І адно усмешкай ціхай мама*
*Ганарые працы светлы плён.*

*Што ж дзівіцца —*
*нават і зімой*
*Рукі мамы*
*тонка пахнуць кветкамі, —*
*Кужаль беражэ*
*духмянасць гэткую —*
*Сіверны — з палонкі ледзяной...*

*На Вялікдзень —*
*хай жыццё міне —*
*Здобным кулічом —*
*свячонай пасхаю —*
*І пяшчотнай,*
*незабыўнай ласкаю*
*Пахнуць рукі мамы будуць мне.*

*А яшчэ —*
*духмянасцю жніва,*
*Той калыскай,*
*што мяне люляла,*
*Вішняй,*
*мурагом у паплавах,*
*Той зямлёй,*
*што мне Радзімай стала.*

•

*Не ўсе Радзівілы з мячамі:*
*Пры свечцы ў зашторанай залі*
*Зіхцела пяро,*
*як начамі, —*
*І тэксты, і ноты пісалі.*

*Адны ў касавіцу па солі*
*На санках разгул свой каталі,*
*Другія,*
*няхай і не ў полі,*
*Як пчолы,*
*штодня шчыравалі.*

*П'янелі адны без прабудку,*
*Другія —*
*ад неба паблізу —*
*Чыталі,*
*святлеючы ў смутку,*
*І Біблію, і Катэхізіс.*

*І Соф'я-княгіня таксама —*
*Бо мудрасць яна шанавала —*
*Узоры на рызах для храма*
*Нястомнай рукой вышывала.*

*Князёўну-красу Караліну*
*Лёс мусіў застацца сіроткай.*
*Спагаднасць яе —*
*ва ўспамінах —*
*Жыве і па веку кароткім...*

*Любілі ў Нясвіжы Мацея —*
*Багатага духам магната:*
*Пісаў ён —*
*сялянаў надзея —*
*Лібрэта,*
*балады,*
*санаты...*

*Не ўсе Радзівілы з мячамі,*
*І ў замку не ўсе дрыгвянелі,*
*А светлай душой палымнелі*
*І ў справах высока ляцелі —*
*Свой княжацкі сан вызначалі.*



## МАСТАКІ

*Абступіла блізкае —*
*Цёпла, несмяротна, —*
*Музыка Агінскага,*
*Рушчыца палотны.*

*Шырыцца мелодыя,*
*Быццам ля плаціны*
*Рэчкай пайнаводнаю*
*Крышацца ільдзіны.*

*Чую ў паланезе я*
*Водгулле пагоні,*
*Салаўёў Залесся,*
*Івалгу Смаргоні.*

*Шамаценне, шчэбет,*
*А ў адценнях дзіўных*
*Аблачынкі ў небе —*
*Вобразы Радзімы...*

*Майстру доля выпала:*
*Поўню, ноч, курціну —*
*Да расінкі —*
*выпукла*
*Перадаць карцінай.*

*Пругкі ліст трыпутніка,*
*З крыжам купал храма,*
*Шыр нябёс раскутая —*
*Не ўмяшчае рама!..*

*З трапяткой сардэчнасцю*
*Родны кут,*
*Багданава,*
*Рушчыц перад вечнасцю*
*Ў свет аздобіў нанава...*

*Захапленне продкамі*
*З думаю пра новае —*
*Радасць не кароткая,*
*Шчасце адмысловае.*

*Колькі дзён адпушчана —*
*Хмель жыцця даспелены,*
*Як Агінскі з Рушчыцам,*
*П'ём з таго ж мы келіха.*

*Часу ўсе завоіны*
*Словам змацаваныя,*
*Музыкай асвоены,*
*Пэндзлем фарбаваныя.*

•

*Сумуе гнязадо пустое,*
*Прысеўшы на голы сук...*
*Душы першародства такое,*
*Што чуецца кожны гук.*

*Заходняга неба трымценне...*
*І льецца самотны звон*
*Ад медзі лістоты асенняй,*
*Што ціха гайдае клён.*

*На ім званаром — варона,*
*Высокі зеніт — над ім...*
*Звон*
*перадзімняй кроны, —*
*Шчымліва звініць —*
*па кім?..*

*Быць можа,*
*па даўняму лету,*
*Па нашых сустрэчах з табой,*
*Так хутка адплыўшых у Лету*
*Па волі нядолі сляпой?..*

*Спакою няма ў пакоі,*
*Стаю на рыжай мяжы,*
*І адчуванне такое:*
*Той звон — па маёй душы...*

•

*Светлы дзень над вёскай*
*Пасля цёплых лівняў.*
*Неба — церам Боскі,*
*Ружавата-сіні.*

*Ліпы ўсцяж дарогі...*
*Перапёлка ў жыце...*
*Хоць не бачу Бога,*
*Ды гатоў маліцца...*

**З рускай мовы
пераклаў Васіль ЗУЁНАК.**

**ПРОЗА**

# ПЛАЧ, МАЯ ЗАЛАТАЯ...

Нешта разбудзіла Варвару. Яна расплюшчыла вочы. За вокнамі ледзь браўся дзень. І жанчына мела права яшчэ паляжаць. Што ж разбудзіла яе?

Яна задумалася, прыпамінаючы сон. Але які там сон! Колькі там летняе ночы? Не паспееш галаву да падушкі прыкласці, як ужо свішча пуга ў канцы сяла — пагнаў рыжы Пятрок кароў у поле. Заспала! Вось табе і гацаца. І тады ўжо, нібы агню ўхапіўшы, лётае гаспадыня па надворку, ды, у сабакі вочы пазычыўшы, гоніць худобу ў поле да чарады. Карова, дурніца, не каб моўчкі ісці — вочы долу, рыкае што сілы, у кожны двор заглядае...

Так бывала з Варварай разы са два. Была яна баба вострая на язык, але тут мелася прыкусіць яго. Бо ці ж будзеш брахаць на свой хвост?

Не, гэта быў не сон.

Жанчына ляжала, баючыся паварухнуцца, каб не спудзіць тае мернае хады думак, што вяла далей.

"А можа, каты ці пацукі на гарышчы гарцуюць? Трэба на той год хату перасыпаць, бо, барані Бог, маразы — не перазімуем..."

Трэба... І пайшло згадвацца тое бясконцае трэба, трэба, трэба. Колькі гэтых трэб-патрэб у чалавека за нядоўгі век! Рабіць — не перарабіць. Не паспееш зерне ў зямлю кінуць, глядзіш: сена, дровы, плот пахіліўся, комін чысціць, памідоры падвязаць, жука збіраць ці труціць — уб'ецца, навалач, дык рук не пакладзеш...

І так — дзень за днём, адно за адным. Дзякуе чалавек Богу за добры дзень і просіць добрае начы, каб назаўтра аддзячыць шчырай працай. Такая ўжо ў чалавека завядзёнка...

"А можа, стары клікаў?" — цякла думка далей. (Яна ўжо даўно краем вуха прыслухоўвалася да цішыні). Але стары маўчаў у сваім закутку — відаць, спаў. Ён заціх яшчэ з вечара. Моўчкі павячэралі, не абазваўшыся, паснулі. Вось... Ёй здалося, што яна ўхапіла яго роўнае дыханне.

"Дзякуй Богу, спіць..."

Вось ужо дзесяць год як Алёш не падымаўся з ложка — адняліся ногі. Спачатку Варвара нават баялася начаваць у хаце. Бывала, прахопіцца сярод начы і аж глухне ад цішыні: ці дыхае ён, ці жывы? Пасля страх прайшоў. Дзень пры дні яны прывыкалі да свайго жыцця моўчкі. Здавалася, што Варвара давала Алёшу час і цярпліва чакала. Але нічога не адбывалася, немач не адпускала, а Бог не даваў смерці. І аднойчы ранак пачаўся, як і некалі: грукалі дзверы, лаялася Варвара... Час, відаць, выйшаў. І жыць трэба было далей...

Варвара адчула, што пара ўставаць. Яна рэдка глядзела на гадзіннік і ніколі не насіла яго з сабой. Унутранае адчуванне часу пакуль што не падводзіла яе. Жанчына паляжала яшчэ з хвіліну і пачала ўставаць.

Варвара была з той пароды людзей, што не ўмеюць жыць моўчкі. Яна заўсёды нешта бубнела сабе пад нос, нават не зважаючы, ёсць хто побач ці няма. Калі ў настрої, дык яна была неблагой жанчынай, але, крый Божа, не тое што супраць ці папярок хто што скажа, ці гляне не так — як богам адменціць.

Вось і зараз, зашпільваючы спадніцу, якую на добры лад даўно на анучы пусціць варта, яна пачала бубнець на тую швачку, што не гэтак гузік ушыла, хаця той гузік сама не раз перашывала. Але ў гэтым была ўся Варвара. Такою век пражыла. Такою яе ведала ўся вёска. Любілі — не любілі, гэта ўжо іншая справа, але прывыклі, як прывыкаюць да якой скулы. Нібы і замінае, ды што зробіш — сваё цела, трэба жыць. Урэшце, разабраўшыся са спадніцай, Варвара зазірнула на палавіну старога. Ён ніцма ляжаў на старым тапчане, адвярнуўшы галаву да сцяны. Зарыпелі масніцы, жанчына спалохалася рыпу, але стары не варухнуўся.

"Няхай паспіць, пакуль сонца нізка. А там будзіць не трэба — яно нежывога разбудзіць", — бубнела старая, выходзячы з хаты.

Дзень браўся харошы. Яна пазнавала гэта па чырвані нябёсаў, што заірдзеліся на ўсходзе, па спевах птушак, што стрэлі яе, калі адчыніла дзверы з сенцаў і ступіла на ганак і, удыхнуўшы поўныя грудзі паветра, лёгка, па-маладому пайшла. Нібы і не было тых гадоў за плячыма. І яна зноў маладая, дужая дзеўка, вёрткая і лёгкая да любой работы: што ў полі, што ў хаце. І хаця была ад прыроды невысокай, але ладна збітай, заўсёды кідалася ў вочы спрытам ды лоўкасцю. Бывала, пойдзе касіць з мужчынамі, дык сем разоў потам умыецца, а не адстане.

"От дзеўка, чортам падшыта!" — рагаталі мужчыны.

Яна і зараз не бракавала. Бо, відаць, такіх людзей не стамляюць гады. Ды толькі да маладога імпэту роўніцца векавая жыццёвая мудрасць, з якою нават маладосць не заўсёды асмеліцца цягацца.

Ну вось і раніца прыйшла ў вёску. Надворкі ажылі: дружна загаласілі пеўні, зарыкалі каровы, завішчэлі свінні, загаманілі жанчыны... І закацілася з канца ў канец рэха жыцця. Дзякуй Богу за добры дзень.

Ужо доячы карову, Варвара зноў узгадала ранішні неспакой і зазлавала на сябе: "Цьфу, здань! Хлапчук мо які дадому ішоў, ды грукнуў чым. А ты, дурная, галаву ламаеш..."

Карова, павярнуўшы галаву, пазірала на Варвару. Запахла сырадоем, і стары кот Вася ўжо сядзеў побач, чакаючы малака. Ля яго круцілася рудое, звяглівае кацяня, якое прыбілася да двара мо з тыдзень таму. Варвара сперш гнала яго, нават на глінішча знесла, а яно вечарам зноў скавыча.

"А няхай жыве. На развод..."

Каго толькі не паспявала накарміць Варвара за раніцу! Тут сам не паясі, а скаціне дай. Бо такі вэрхал падымецца — вёска збяжыцца. Свінні, гусі, куры, качкі — усе чакалі, усе на свой лад гучна віталі гаспадыню, навыперадкі ляцелі, беглі, скакалі да поўнага карыта, у якое шчодрая рука клала харч...

Дзівіліся людзі: каму ўсё гэта дабро чыніцца? Дзеля чаго Варвара свету божага не бачыць: смачна не пад'ела, позна не паспала? Хоць і была некалі Варвара першай дзеўкай на сяле, а хлопцы не любілі яе. І з твару не брыдкая, і да работы — агонь, не адна баба прыглядала за нявестку ў хату. Нічога, што брахлівая, гаспадар раз-другі ляйчынай перацягне — прыкусіць язык. Усё не бяда. А не складвалася ў Варвары жаночая доля. І ўжо думала дзеўка, што так векавухай і праседзіць. Як напрадвесні заўведаў Алёш. Алёшыха заслабла на Сёмуху. Мо каб на скорым часе да дактароў пайшла, то і не засірацелі б дзеткі. Але калі таго паратунку было шукаць: дзеткі дробныя за падол скубуць, а вечна падпіты Алёш чаўпе ў плечы, кароўцы цяліцца, бульбу капаць... А як пачала крывёю сплываць, у бальніцу падалася. Там патрымалі з тыдзень ды адправілі дадому — паміраць. Была Алёшыха жанчынай разумнай, ведала, што нікому, акрамя яе, дзеткі ейныя не патрэбны. І таму, калі хвароба брала свой кароткі перадых, пісала дрыготкай рукой паперы, укленчвала перад дзядзькамі з устаноў, каб дазволілі пры жыцці аддаць дзетак у дзіцячы дом...

Не спусціўшы гадавіны па жонцы, Алёш прыстаў у прымы да Варвары.

Сцярпелася, счакалася Варвара па любові.

Нявызнанай, грэшнай, бессаромна-п'янлівай ласкі прагла маладое цела. І яна, не паслухаўшы нікога, прыняла крывога Алёша. Не завідны быў прымак — з прывескам.

"Схацела ў такі замуж — жыві", — бласлявіла маці.

І Варвара кінулася ў гэты вір. Ды толькі ашукалася жанчына ў сваіх думках-спадзяванках. Нейкай брыдкай і куцай, няшчырай і падманлівай была тая ласка мужава. І Варвара зразумела, што ніколі не будзе любіць гэтага чужога ёй чалавека. Можа, таму і не даў Бог ёй дзіцяці. Ніхто не бачыў Варварыных слёз, але ці солодка ёй было, калі на добрым падпітку грымеў на ўсё сяло ціхі Алёш: "Ялавіца. Не глядзіш маіх дзетак. Сіротам шкадуеш. Мяне за дурня трымаеш..."

Невядома за каго трымала Варвара Алёша. Хіба што штаны ў хаце, бо вялікай дапамогі ад яго не бачыла. Як рабіла ад цёмнага да цёмнага, так і цягнула ўсё на сабе, што чорны вол. І пажаліцца няма каму, ды й моды такой у Варвары не было. Усім цяжка. Хіба ўсіх перашкадуеш? Ну, даў Бог такога гаспадара, што зробіш? А ў каго лепшы? Рабі ціхенька ўсё сама, абы ціха. І зямля аддзячыць добрым ураджаем, падворак — поўным гумном, хата — парадкам і ладам. Але, бывала, за лета так набярэцца Варвара лесам, полем, гаспадаркай, што аж учарнее, бедалага. За зіму крыху адыдзе. Чарэнь бакі адцягне. І зноў Варвара ўпрагайся...

Аднаго не змагла жанчына: прылашчыць Алёшавых дзетак. Ці не схацела? Хто ведае...

...Працадзіўшы малако і аднёсшы слоік у склеп, Варвара ўрэшце пайшла ў хату. Куры гаспадарылі ў сенцах. Тут было ціха і халаднавата.

— Стары, — гукнула яна ў адчыненыя дзверы.

Але стары не азваўся. Скінуўшы чобаты, жанчына зайшла ў хату на палавіну да мужа. Алёш ляжаў усё гэтак жа, як і ўранку. Сонца сляпіла вокны, назойліва таўклася аб шыбу таўсматая муха.

— Стары! — падышоўшы ужо зусім блізка, ціша і неяк няўпэўнена паклікала Варвара.

Алёш не варухнуўся.

Яна стаяла ў роспачы, не ведаючы, што рабіць.

— Алёш, годзе... — кранула яна яго за плячо.

Адзервянелае цела не паддалося. Варвара нахілілася і зазірнула яму ў твар. Пячатка ціхай позняй смерці ляжала на яго вінаватым зблажэлым твары. Па-бабску войкнуўшы, Варвара спуджана адступілася. Ногі сталі чужымі. Яна прысела і перахрысцілася.

— Хай Бог крые і бароніць...

Завісла гнятлівая цішыня.

Мінула Бог ведае колькі часу. І Варвара загаварыла. Спярша аднымі вуснамі, так, што цяжка было пазнаць, аб чым яна гаворыць, а пасля голасна:

— Учора пра сена дагаварылася. Казаў Лёнік, што прывязе ў нядзелю. Перасушу, пакуль пагода, ды на гарышча, няхай там... А ўчора ягад знайшла лапіну, проста нябраныя, што пацеркі. Трэба падскочыць, бо шкада, калі пабяруць...

...Пятру, Косціку, Соні тэлеграмы адаб'ю. Надзі пераказаць трэба

...Паслухай, стары, гэта ты мяне пабудзіў? Га?..

Яна падняла на яго вочы.

Недагледжаны, шчаціністы, з апалымі шчокамі, Алёш здаваўся Варвары зусім не падобным на таго чалавека, з якім яна пражыла жыццё. Варвара сілілася яго пазнаць і не магла. Чужы. Ён так і не стаў ёй родным. Жанчына ўстала, цяжка ўздыхнула і выйшла, надзейна завесіўшы за сабой фіранку, якой была перагароджана хата. Смерць развяла іх.

Перахрысціўшыся на абразы, яна адчыніла шафу. Выцягнула адзін скрутак, другі, трэці. Капялюш, пінжак, кашуля, штаны, чаравікі. Урэшце яны дачакаліся свайго часу.

Варвара скінула квяцістую хустку, кашулю, спадніцу, што не паддавалася зранку. Засталася ў адной сарочцы. Яна глядзела на сябе ў люстэрка шафы нібы ўпершыню: спрацаваная баба. Ты ж яшчэ не старая, Варвара, гладкае пругкае цела, поўныя налітыя грудзі, станістыя ногі. Каму ўсё гэта?

Хоць бы на гадзіну сталася ёй быць шчаслівай, забыцца на ўсё гэта сабачае жыццё-выжыванне. Апошнюю кашулю б аддала. Горы перавярнула б...

"Што ж ты маўчыш, баба?.. Кажы што! Ну! Не маўчы..."

Апусцілася Варвара на лаву ля вакна, пасыпаліся скаланутыя пялёсткі "агеньчыка". Цяжкая шурпатая рука сама міжволі далікатна перабірае шорсткую тканіну пінжака. Шкляны ўтрапёны позірк сухіх вачэй.

"Плач, мая залатая, плач..."

...А потым яна ўстане, падрыхтуе хату да хаўтураў і пойдзе па людзях, каб памаглі правесці яе Алёша ў апошні шлях...

**Таццяна ЖУК**



Калі конкурс выканаўцаў на народных інструментах адзіны ў краіне, то, натуральна, хочацца бачыць яго развітым, пашыраным, дасканалым.

Дзе тут намінацыі эстраднай музыкі, ансамблевага выканальніцтва ды іншыя? Што нам перашкаджае, каб яны былі? Недахоп сродкаў? Давайце паглядзім на "Пятра-Паўлаўскія асамблеі гармонікі" ў Санкт-Пецярбургу. Павучымся ў сяброў і суседзяў.

Цяжка меркаваць, хто дыктуе парадак узнагароджвання пераможцаў у рэспубліканскім туры нашага конкурсу. Склалася ўражанне (і гэтым разам асабліва), што іх вялікасць фінансы. Аднак у абласным туры, праведзеным на Брэстчыне, гэтая частка працы была зроблена шчыра і з годнасцю. Кожны ўдзельнік, дзіця, атрымаў няхай сціплы, але падарунак, грамату і пачуў цёплыя, заахвочвальныя словы. Затое шмат хто з дзяцей-удзельнікаў рэспубліканскага тура не атрымаў нават паперкі аб удзеле ў конкурсе. Быццам яны нічога не рыхтавалі, нідзе не былі, ні ў чым не ўдзельнічалі. Падчас цырымоніі падвядзення вынікаў мы бачылі слёзы ў вачах некаторых дзяцей. Ці быў гэты дзень для іх святам? Пра што яны раскажуць сваім аднагодкам, маладшым сябрам, якія, магчыма, толькі пачынаюць прыахвочвацца да музычных заняткаў? А ў фінале ж былі лепшыя з лепшых. Што гаварыць пра стаўленне да астатніх.

Пагодзімся, журы не нясе адказнасці за настрой і творчы дух удзельнікаў. Але толькі ў тым выпадку, калі гэтае журы — не дзіцячага конкурсу! Нельга да лёсу даравітага дзіцяці падыходзіць з педагагічнымі меркамі вышэйшай, нават сярэдняй спецыяльнай адукацыйнай установы. Дзеці — гэта своеадметны крохкі свет, пра што трошкі забыліся паважаныя дзядзечкі ды цётачкі. Не лішне, знаходзячыся на вышэйшай прыступцы адукацыйнай лесвіцы, памятаць і, па магчымасці, педагагічна кваліфікавана турбавацца пра самае кволае, малое звяно музычнай адукацыі — пра школы і дзяцей, усяляк падтрымліваць, няхай маральна, дапамагаць жыць, а то і выжываць у сённяшніх умовах.

Добра, калі б у журы заключнага рэспубліканскага конкурснага тура ўключаліся прадстаўнікі не толькі вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, але і лепшыя, найбольш аўтарытэтныя выкладчыкі, якія працуюць з дзіцячым кантынгентам, каб былі прадстаўлены музыканты з замежных краін, хаця б з краін-суседзяў. Карысць — усебаковая: склад выглядае стала, самавіта, з'яўляецца магчымасць пашырыць замежныя кантакты, ды і судзейства выходзіць за межы "міжсабойчыка". Могуць запярэчыць: маўляў, вялікі склад журы — вялікія выдаткі, але гэта не зусім так. Усе дасведчаныя людзі разумеюць, за кошт чаго зрабіць журы таннейшым.

Не сакрэт, перспектывы музычнай адукацыі не радуюць: дзяцей прыходзіць усё менш, плата за адукацыю балансуе на мяжы мінімальна дапушчальнай, музычныя інструменты з-за высокага кошту недасягальныя. У такой складанай сітуацыі асабліва беражліва трэба ставіцца да нашых дзяцей, якія звязваюць свой лёс з музыкай, а тым больш — да найбольш даравітых, да канкурсантаў. Імкнуцца да ўзаемаразумення, каб не раніць іх душы, прывабліваць у сваю сферу дзейнасці. Не далёкі ж той час, калі вучылішчы-каледжы і кансерваторыі-акадэміі востра адчуюць недахоп ахвотнікаў прысвяціць сябе музычнай прафесіі.

Пра вынікі конкурсу хацелася б прачытаць у беларускіх навукова-метадычных часопісах, дзе паважаныя і аўтарытэтныя мэтры, старшыні і члены журы кваліфікавана прааналізавалі б стан спраў у сваёй галіне выканальніцтва, паставілі б новыя мэты і задачы, далі кампетэнтныя парады, рэкамендацыі, тым самым рухаючы нашу агульную справу да новых адзнак дасканаласці. Але гэта, на жаль, пакуль толькі пажаданне. Як і пажаданне наконт таго, каб адпаведнае ведамства распарадзілася б спецыяльным загадам узняць педагагічную стаўку выкладчыкам, чые выхаванцы сталі пераможцамі, да ўзроўню годнай заробатнай платы, хаця б на перыяд да наступнага конкурсу.

Мы, асабліва сённяшнія выкладчыкі дзіцячых музычных навучальных устаноў рознага кшталту, не абмяркоўваем праблему неабходнасці правядзення выканаўчых фестываляў, якая адчуваецца вельмі востра. Яе вырашэнне было б і своечасовай, перспектыўнай справай. Няхай такіх фэстаў будзе многа, няхай яны будуць рэгіянальнымі, рэальнымі для правядзення па колькасці і складзе ўдзельнікаў, безпрэтэнзій на асобную бюджэтную падтрымку. Няхай запаўняюць міжконкурсную часавую прастору. Дарэчы, у 2002 г. прайшоў такі фестываль — "Берасцейскія гармонікі". Якія задаволеныя былі дзеці!

А конкурс — гэта добра. Але ці грэх жадаць, каб ён стаў лепшы?

**Алег ГАЛЕНКА,**
**загадчык кафедры музыкі і спеваў Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А. Пушкіна**



скую версію "перацяклі" дождж, доўгія панарамы, ненадакучлівая маруднасць, меланхалічнасць... Некалі ў пачатку 80-х у размове з удзельнікамі народнай кінастудыі "Юнацтва" А. Таркоўскі прызнаваўся, што не зрабіў ніводнай забаўляльнай карціны і абяцае ніколі такой не зрабіць. Відаць, што рэжысёр С. Содэрберг, ні насуперак Таркоўскаму не даваў гледачу, што таямнічы Салярыс абуджае ў чалавеку сумленне, ўсведамленне граху і пакаянне за яго, таго даўняга інтэрв'ю з расійскім кінамайстрам не чытаў...

## ФАНФАН-ЦЮЛЬПАН

Новы каляровы "Фанфан-цюльпан" цалкам адпавядае чорна-беламу фільму з Ж. Філіпам і Д. Лолабрыджыдай у галоўных ролях. У сучасным фармаце дынамічная, вясёлая стужка напоўненая дасціпным гумарам, постмадэрнісцкімі жарцікамі ( у рэмейке абыгрываюцца і новая еўрапейская валюта EURO, і нетрадыцыйныя сексуальныя схільнасці французскіх манархаў, якія больш за ўсе колеры аддаюць перавагу блакітнаму, а ў мужчынах — патыліцы); маляўнічымі двубоямі на шпагах, пагонямі, у якіх новы Фанфан (В. Перэс) нагадвае гнуткіх персанажаў "Матрыцы"; прыцягальным абаяннем акцёраў, з якіх, канечне, хочацца вылучыць і партнёрку В. Перэса, незабыўную П. Крус (цыганка Адэліна)...

На жаль, вышэйзгаданыя станоўчыя эмоцыі пачынаюць знікаць пасля паўгадзіны прагляду фільма. Глядач, нібыта Аліса ў краіне цудаў, падае ў бязглуздую бездань стылістычна неапраўданых меладраматычных сцэнаў, калі разлучаная з каханым Фанфанам Адэліна вырашае скончыць жыццё самагубствам ці калі гарэза Фанфан адкрывае, што закаханы ў прыгажуню-цыганку. Але, напэўна, усё гэта і робіць новы фільм "Фанфан-цюльпан" падобным на стары, калі філасофскія развагі хадака і плэйбоя Фанфана (а менавіта такі характар цудоўна ўвасабляе В. Перэс) пра тое, што ў дваццаць гадоў трэба думаць, як у пяцьдзесят, бо толькі ў гэтым узросце чалавек здольны насамрэч ацаніць жыццё і каханне толькі адной жанчыны, маглі выклікаць у чуллівай публікі слёзы замілавання. Сёння ж на падобныя сентэнцыі ў кіназале адгукаюцца толькі добрымі ўсмешкамі: сучасным гледачам больш даспадобы постмадэрнісцкія жарцікі, вясёлыя пагоні і гэгі...

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

*НА ЗДЫМКАХ: кадры з кінафільмаў "Салярыс" і "Фанфан-цюльпан"(рабочы момант).*

**ПРЭЗЕНТАЦЫІ**

***Яго імя і яго музыку мінская публіка ўпершыню пачула на імпрэзах творчага аб'яднання "Беларуская Капэла". Дзякуючы мастацкаму кіраўніку "БК" Віктару СКОРАБАГАТАВУ, якому з Польшчы быў перададзены архіў Яна Тарасевіча, рыхтаваліся прэм'еры невядомых твораў 20 стагоддзя, манаграфічныя праграмы ў межах фестывалю "Адраджэнне беларускай капэлы". Выходзілі біяграфічныя нарысы. З'явілася і кніжка пра забытага беларускага кампазітара, піяніста, педагога, які, пасяліўшыся на стала ў радзімным кутку на Беласточчыне, міжволі, у выніку драмы, разыгранай на тэатры гісторыі, апынуўся па той бок дзяржаўнай мяжы — грамадзянінам ужо іншай краіны.***



# А СЛАВА ЯГО АБМІНУЛА

Назва той кніжкі В.Скорабагатава, як, пэўна, памятаюць нашы чытачы, — "Абыйшоўся без славы". А нядаўна ўбачыла свет яшчэ адна навінка: першы нотны зборнік Яна Тарасевіча.

"Песня кахання" — так, сугучна назве аднаго з твораў, іменаваны гэты сшытак фартэпіянных п'ес, які выйшаў у выдавецтве "Тэхналогія" пад кіраўніцтвам Зміцера Санько (нотныя тэксты Тарасевіча рэдагаваў народны артыст Беларусі піяніст Ігар Алоўнікаў, рэцэнзент — прафесар Вадзім Яканюк). Прэзентацыя нотадруку прайшла ў Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі.

У гэтай пазнаваўчай імпрэзе, якую вёў В.Скорабагатаў, удзельнічалі З.Санько, В.Яканюк, дырэктар музея З.Кучар, музыканты-выканаўцы. Артыстычны аповед мастацкага кіраўніка "Беларускай Капэлы" ўражваў аўдыторыю амаль сенсацыйнымі дэталямі. Ці многія ведаюць, напрыклад, што Я.Тарасевіч меў добрыя стасункі з вялікім С.Рахманінавым, разам з якім, на ягоным аўто, пакідаў рэвалюцыйную Расію; што на нейкі час наш зямляк знайшоў прытулак у Фінляндыі, у доме самога Я.Сібеліуса; што ён першы з беларускіх кампазітараў паклаў на музыку вершы Якуба Коласа, Францішка Багушэвіча і часта звяртаўся да паэзіі Максіма Багдановіча...

На невялічкую выстаўку, зладкаваную ў канцэртнай зале музея, трапілі некаторыя нотныя рукапісы (каліграфічна зробленыя, сям-там пазначаныя радкамі народных песенных тэкстаў), сямейныя фатаграфіі. А ў канву нязмушанай гутаркі ўпляталіся бліскавінкі жывой музыкі.

Хто выступаў?

Знаная салістка Ірына Шуміліна, якая папулярызуе фартэпіянныя п'есы Тарасевіча ў сваіх філарманічных праграмах. Скрыпачка Марына Сакалоўская (з канцэртмайстрам Сяргеем Багачовым), вучаніца прафесара Вячаслава Зяленіна, які граў творы Тарасевіча на фестывалі "Адраджэнне беларускай капэлы". Віктар Скорабагатаў з піяністкай Ганнай Каржанеўскай, паслядоўныя стваральнікі агучанай анталогіі айчыннай вакальнай музыкі — разнастайнай і неахопнай. А камп'ютэр дапамог узнавіць-пачуць гучанне хору, гранне прафесара І.Алоўнікава...

Тым часам улучэнне ў канцэртны ўжытак творчасці невядомага таленавітага музыканта-беларуса, відавочцы больш як паловы 20 стагоддзя, працягваецца. Запіс музыкі Тарасевіча, зроблены падчас фестывалю "Адраджэнне беларускай капэлы" ў 1999г. і выдадзены на CD у Польшчы, меў там шумны поспех, атрымаў прэстыжную прэмію "Фрэдэрык" (мясцовы аналаг "Грэмі") і летась быў растыражаваны зноў. Пры матэрыяльнай падтрымцы Беластоцкага ваяводства рыхтуецца другі фартэпіянны зборнік, у які ўвойдуць санаты і маштабная "Беларуская фантазія". Адзін з выбітных вучняў Тарасевіча — сусветна знакаміты дырыжор Ежы Максімюк даводзіць да ладу недапрацаваны рукапіс Фартэпіяннага канцэрта свайго настаўніка, так што ў хуткім часе мае адбыцца трайная прэм'ера: у Варшаве, у Беластоку і потым ў Мінску.

А герой прэзентацыі, зборнік "Песня кахання", зойме належнае месца ў музеі: яго адмысловы асобнік выдаўцы пазначылі залатымі літарамі дарчага надпісу.

"Ноты — без кніжкі?" — схамянуўся сп.Скорабагатаў і заадно прэзентаваў музею сваю манаграфію пра Яна Тарасевіча.

**С.БЕРАСЦЕНЬ**
**Фота К.ДРОБАВА**



Не было б мовы сваёй, не было б сваёй песні — не было б і сваёй краіны. З песні ды мовы пачынаецца незалежнасць, годнасць народа, які ўсведамляе сваю непаўторнасць і права будаваць уласны дом, каб жыць у ім па-гаспадарску. Жывое слова беларускае, ды яшчэ акрыленае спевам, – тая спаконвечная спадчына, адзіны рэальны скарб, які зрабіў і робіць Беларусь Беларуссю, не дазваляючы ёй нават пад націскам эканамічных праблем "ісці ў прымы" і растварыцца.

У песні-візітоўцы маладзечанскага фестывалю ёсць такі радок: "Мы не згубімся ў Сусвеце". 10 гадоў таму, калі разам са святам стваралася і яна, тут можна было ставіць клічнік. А сёння?

Стаўлю клічнік. Бо, хаця неба праслязілася моцнымі халоднымі дажджамі, якія вымусілі многае ўспрымаць з-пад парасона, душа спявала, ціха ды ўпэўнена: "Віват Маладзечна!"

Стаўлю пытальнік. Бо – чаму за мінулыя дзесяць гадоў столькі неўразумелых пакут-выпрабаванняў зведаў Нацыянальны фестываль беларускай паэзіі і песні? Чаму ён застаўся адзіным, хаця імправізаваныя святы гэткага кшталту маглі б нараджацца ці не ў кожным паселішчы, дзе жывуць паэты і гучыць беларуская песня?

І стаўлю шматкроп'е. Бо, як бы там ні было, а пераждыўшы эканамічныя цяжкасці, мы ўсё ж не згубімся ў Сусвеце...

Наша маленькая "фестывальная сталіца", упрыгожаная срэбнымі ніткамі дажджу, зорнымі бліскаўкамі феерверку, дыяментамі паэтычных метафар і мелодый, кранала сваёй утульнасцю, гасціннасцю. Удзельнікі фэсту ўражвалі энтузіязмам і самаахвярнасцю (паспявай ды паскачы ў лёгкім канцэртным строі на сырым сцюдзёным паветры!).

Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі зрабіўся "героем дня" (дакладней, першай фестывальнай ночы). Менавіта яму, як ужо ведаюць нашы чытачы, выпаў гонар атрымаць галоўныя ўзнагароды. І слушна. Бо мала хто зрабіў для папулярызацыі беларускай песні (ды яшчэ і старадаўняй нашай музычнай спадчыны) столькі, колькі зрабіў і робіць гэты калектыў на чале з маэстра М. Фінбергам, ініцыятарам нацыянальнага фестывальнага руху ў несталічных беларускіх гарадах.

Быў у Маладзечне яшчэ адзін заўсёднік гэтага фестывалю – Нацыянальны акадэмічны народны хор імя Г. Цітовіча пад кіраўніцтвам прафесара М. Дрынеўскага. Гэтым разам хор абнавіў раскошную сцэну гарадскога Палаца культуры. Перад ім выступалі госці з Цюмені – гурт "Вячоркі" пад кіраўніцтвам В. Міхеенкі. Прадстаўніцы беларускай дыяспары спявалі старадаўнія народныя песні, пачутыя ад бабуль-беларусак. Кіраўнік цюменскага абласнога нацыянальна-культурнага таварыства "Беларусь" Л. Ксяндзоў дадаў да іх выступлення ўласны верш пра сваю гістарычную радзіму, якою ганарыцца як бацькоўскаю спадчынай... Публіка не спяшалася, сваімі авацыямі яна не дазволіла нават скараціць выступленне нашага славутага акадэмічнага хору. Так што артысты пад кіраўніцтвам М. Дрынеўскага выступілі па шчодрай праграме: былі пранікнёныя лірычныя песні, жартоўныя прыпеўкі, агністыя танцы, карагоды. І – слова паэта У. Карызны, які прысвяціў радкі хору, "нескаронаму востраву", "апошняму нашаму рубяжу", які "ратуе песнямі народ".

# СПЕЎ З-ПАД ПАРАСОНА







1. "Наша песня, наша мова..."
2. Саліст А. ЯФІМІК.
3. Хор імя Г. ЦІТОВІЧА.
4. Палац культуры.



Гаварылася пра надакучлівы дождж, з-за якога не адбыліся літаратурныя сустрэчы, канцэрты на адкрытых пляцоўках, начное выступленне этнатрыо "Троіца". Ды, нягледзячы на залеву, удаўся мітынг, прысвечаны М. Кл. Агінскаму ля музычнага вучылішча, што носіць яго імя. З расчыненых вокнаў неяк асабліва шляхетна гучала фартэпіяна; хор, размешчаны на прыступках, прачула спяваў ля-мінорны паланез, вядомы ўсім пад назвай "Развітанне з радзімай". Ушанавалі асобу Агінскага, якога маладзечанцы лічаць сваім земляком. Да ягонага помніка, што паблізу вучылішча, усклалі кветкі. Прыгадалі, між іншым, колішнія словы аўтара гэтай вытанчанай скульптуры, В. Янушкевіча: "Любоў да Айчыны і музыкі адкрывае дарогу ў неба".

Вялікую праграму прысвяцілі М. Кл. Агінскаму музыканты Сімфанічнага аркестра Маладзечанскага музычнага вучылішча пад кіраўніцтвам Р. Сарокі, а таксама знаныя камерныя калектывы, што працуюць у складзе Дзяржаўнага канцэртнага: камерны аркестр, ансамбль салістаў на драўляных духавых інструментах, "Сірынкс", "Інтрада". Гэты канцэрт у Палацы культуры меў асаблівы поспех, бо суправаджаўся асветніцкім каментарыем В. Дадзіёмавай, якая, дарэчы, абараніла нядаўна доктарскую дысертацыю, прычым упершыню ў гісторыі айчыннай навукі – на матэрыяле старадаўняй музычнай спадчыны Беларусі.

Жывы гук. Жывое слова беларускае. Гэты прынцып фестывалю раптам нагадаў пра сябе ў віры кірмашу рамёстваў, што разгарнуўся на галоўнай пешаходнай вуліцы. Народу прапаноўвалі гліняныя забаўкі, саламяныя брылі, бурштынавыя пацеркі, узоры дзіцячай творчасці. А над стракатым кірмашом луналі празрыстыя галасы свістулек, пявучых акарын. Граў не музыкі, а майстар, які сам і зрабіў гэты галасісты тавар – С. Шчэрба з нарачанскага краю, заўсёднік пастаўскіх святаў народнай музыкі, госць сёлетняга "Лошыцкага фэсту". З ім і пагутарылі мы шчыра, выпрабоўваючы жывы гук адмысловых інструментаў...

Канцэрты на Цэнтральнай плошчы пераканалі ў неабходнасці Нацыянальнага свята беларускай паэзіі ды музыкі. Непагадзь не напалохала публіку, ладная частка якой чамусьці не трапіла ў "залу", а засталася слухаць па той бок турнікетаў. Маладзечанцы горача прымалі ўсіх: і Д. Качароўскага, які прыкметна ўдасканаліў свой вакал і сцэнічны вобраз; і З. Вайцюшкевіча з беларускай "Бабкай" на манер лезгінкі; і Т. Глазунову, падобную да зычнагалосых балканскіх дзіваў; і мужнага М. Скорыкава; і этнагурты... Пералічваць няма патрэбы: усе замоўленыя ў праграме зоркі з беларускімі песнямі – былі!

Кажуць, новых песень магло быць і паболей. І конкурс маладых выканаўцаў мог бы прайсці тут. І канцэртаў у эфіры БТ магло быць болей: раней маладзечанскія фэсты трансліраваліся "жыўцом", без жорсткага мантажу... Але будзем рэалістамі. І – давайце любіць тое, што ёсць. Ад нелюбові ды крытыкі крылы натхнення не вырастуць.

Перш чым паставіць апошнюю кропку ў сённяшняй "песні пра фэст", назаву яшчэ адно імя: Надзея Сідарэнка. Загадчыца аддзела культуры гарвыканкама. Сапраўдная сябра роднага слова і музыкі, паэтаў і артыстаў. І – прэсы. Дзякуючы Н. Сідарэнцы, спецвыпуск "ЛіМа", прысвечаны фестывалю, трапіў у "джэнтльменскі набор" сувеніраў для гасцей Маладзечна.

С. БЕРАСЦЕНЬ
Фота К. ДРОБАВА





5. Дзе мой талісман?
6. Фестывальная "поўня".
7. Сярод музаў — Алесь ПІСЬМЯНКОЎ.
8. Юныя маладзечанцы.





*З малай іскаркі —*
*ледзьве свеціцца —*
*слова-полымя*
*распалю.*
*Будзе сонейкам,*
*будзе месяцам*
*Над табою*
*маё*
*"люблю..."*

***П**ерафразіравала радок з вядомай песні славутага спевака Пятра Лешчанкі, якога вельмі любіла незабыўная Таццяна Дзмітрусёва...*

***А** яшчэ шчымліва-пранікнёная слаўная Паэтэса і выдатная Журналістка Таццяна Дзмітрусёва часта напявала лірычную песню "З бярозкай побач я стаяла" (бяроза — яе любімае дрэва).*

***З** цяжкім сумам і вострым болем у сэрцы перайначу гэты радок: "З бярозкай побач я спачыла" амаль пяць гадоў таму...*

***У** гэтым годзе Таццяна Дзмітрусёва адзначыла б сваё 55-годдзе...*

***Я** памятаю яшчэ зусім маладзенькую Танечку ў "Чырвонай змене". Яна адразу заявіла аб сабе гучна, светла, мажорна, таленавіта! Пранікнёныя нарысы з'яўляліся з-пад яе лёгкага пяра (на вялікі жаль, гэты жанр амаль знік са старонак газет). Таццяна любіла людзей, цікава расказвала пра іх. Загадваючы аддзелам культуры, яна стварыла славутую галерэю творчых партрэтаў пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў.*

***У** "Чырвонцы" Таццяна была незаменнай. Шмат мы павандравалі разам! Прыбалтыка, Міхайлаўскае — да Пушкіна...*

***У** "Чырвонай змене" Таня разам з дваюраднай сястрой Галінай Далгавесавай — каралевай пішучай машынкі — атрымалі першую ў жыцці ўласную двухпакаёвую кватэру. Як яны радаваліся! Запрасілі ўсіх супрацоўнікаў! Такога вясёлага наваселля больш не было!*

***З** Таняй жылося лёгка побач. Яна ўмела сябраваць бескарысліва, была шчодрай на дабрыню, ласкавай, спагадлівай, вясёлай, паважлівай, надзейнай, добразычлівай. Страсна любіла людзей, асабліва дзяцей. Сваю кошку Мусю называла дачушкай. Апошнія месяцы свайго жыцця раздзяліла з ёю і яе кацянятамі...*

***Д**зякуючы кантактнасці і камунікабельнасці Таццяна добра сябе адчувала ўсюды. У "Піянеры Беларусі" яе кабінет нагадваў музей цацак, якія прыслалі любімаму журналісту юныя чытачы з усёй Беларусі.*

***У**жо стаўшы Таццянай Паўлаўнай, працавала намеснікам рэдактара газеты "Культура", рэдагавала газету "Кнігарня". Апошні запіс у працоўнай кніжцы Т. Дзмітрусёвай — "Настаўніцкая газета"...*

***Т**аццяна была бязмежна добрым чалавекам, аптымістам, надзейным сябрам, падстаўляючы сваё плячо таварышу ў цяжкую хвіліну. Я б смела пайшла з ёю ў разведку. Яна з племя тых душэўна багатых людзей, якія падзеляцца апошнім. Хто аддае — той багаты. А багаты хціўец — варты жалю бядняк.*

***І** па іроніі лёсу ў канцы свайго зямнога жыцця побач з ёю, хворай, адзінокай і нішчымнай, аказаліся жорсткія, агрэсіўныя, прагныя... не паварочваецца язык сказаць... людзі, хутчэй нелюдзі...*

*...Застаўшыся без сродкаў для існавання, вырашыла памяняць сваю аднапакаёвую кватэру ў прэстыжным раёне (па вул. Калініна) на таннейшую... і апынулася па волі злачынна-бессаромных дзялкоў у маленькім дачным дамку ў вёсачцы Клачкі Дзяржынскага раёна (яе нават на карце няма). А грошы (каля 10 тысяч долараў) ад такога "абмену" аселі ў кішэнях падонкаў-марадзёраў. Бог ім суддзя! На чужым горы ні шчасця, ні дабрабыту не здабудзеш. Адгукнецца абавязкова! Ды ніхто добрым словам іх ніколі не ўспомніць, а гэта ж грэх вялікі!*

*...Хавалі Таццяну ў спякотны дзень канца жніўня на вясковых могілках кіраўнік нашага Саюза журналістаў Леанід Сямёнавіч Екель, Вера Шчэціна, Аліна Камінская, Ігар Валасевіч і аўтар гэтых радкоў. Спачывае Таццяна пад любімымі бярозкамі, ля маленькай вёсачкі з сімвалічнай для яе апошніх дзён назвай Клачкі. Бо яе апошнія, і, магчыма, самыя лепшыя вершы былі напісаны алоўкам на шматках ("клочках") выпадковай паперы і кардону...*

***Н**аведалі мы яе магілу на ўгодкі. Прыбралі, пасадзілі кветкі, памянулі добрым ціхім словам.*

***Д**а 5-х угодкаў Леанід Сямёнавіч Екель плануе ўстанавіць помнік. Упэўнена, што так яно і будзе!*

***А**ле лепшы помнік паэту — яго вершы. Бо рукапісы не гараць, а напісанае — застаецца.*

***Т**аццяна выдала пры жыцці два паэтычныя зборнікі. У сваім апошнім прытулку ў яе нараджаліся ад адчаю, безвыходнасці, самоты, адзіноты, непрыкаянасці трагічныя прарочыя радкі.*

Валянціна ЛУЦЭВІЧ-СКАРЫНКІНА

# ТАЦЦЯНА, ПОМНІМ ДНІ ЗАЛАТЫЯ...

**Таццяна ДЗМІТРУСЁВА**



*Спадайце лісцем,*
*летнія дзянькі.*
*Каханне не на век —*
*нявечна лета.*
*Нявечна...*
*А было ж якім,*
*якім...*

*

*Я, вядома,*
*не Мандэльштам,*
*але ўрок вам*
*жыццёвы дам:*
*Не спяшайцеся,*
*не вініце,*
*Злосць сваю*
*і маю —*
*спыніце...*

**А вось некалькі вершаў са зборніка "Асеннія святы":**

*На плячо тваё,*
*Як на плаху,*
*Я схіліла сваю галаву.*
*Ад здзіўлення*
*магу заплакаць:*
*Я памілавана —*
*жыву.*

*

*Не адгукнецца мая матуля*
*на кліч дзіцяці майго:*
*"Бабуля"...*
*Я ж і за тое прад лёсам*
*ніцма,*
*што мама зрэдку*
*мне ў сне прысніцца.*
*Я знаю добра, што*
*ўсё нявечна,*
*ды вельмі ж раннім быў*
*мамін вечар.*
*А ноч матулі ўжо без*
*світання.*
*Сустрэч не будзе пасля*
*расстання.*
*І зноў прад лёсам*
*мне трэба ніцма:*
*Ва мне матуля жывой*
*крыніцай.*
*Ды б'ецца горыч*
*пад сэрцам самым —*
*мяне не клічуць пяшчотна*
*"мама"...*

*

*Ні ветрыку, ні шолаху,*
*ні гуку.*
*Асенні двор. Вячэрні двор.*
*Бальнічны двор.*
*Дзесьці за скверыкам*
*старым*
*трамвай прагрукаў.*
*Далёка дзесьці звон яго*
*замёр.*
*Асенні двор. Вячэрні двор.*
*Бальнічны двор.*
*Соцень людзей —*
*соцень надзей —*
*маўклівы хор.*

*

**НА БУЛЬБЕ**

*Папрацавалі — будзь*
*здароў!*
*Адвесілі зямных паклонаў.*
*Хто з кошыкам, а хто*
*з вядром*
*да вогнішча ідзём*
*стамлёна.*

*Прыйшлі. Паселі*
*ля кастра.*
*Вось-вось гаворка*
*разгарыцца.*
*Вячэра будзе з простых*
*страў,*
*якіх нам смак з маленства*
*сніцца.*

*Сцякае сала на вуглі,*
*і бульба ў прысаку*
*пячэцца...*
*Нячутна да кастра*
*прыйшлі*
*ўспаміны нашага*
*маленства.*

*

*Няпраўда твая, няпраўда.*
*Ні кінуць мяне сябры.*
*Прыедуць. Не сёння,*
*дык заўтра,*
*Запаляць свае кастры.*

*Запаляць.*
*Мяне запросяць*
*Пагрэцца ля іх агню.*
*І я ў трапяткую просінь*
*Разгубленасць праганю.*

*Адтаю, зусім растаю —*
*Заплачу скрозь ціхі смех:*
*Убачу прыкметы пра талін*
*Праз цяжкі, глыбокі снег.*



*

*Яшчэ на свет*
*не нарадзілася,*
*а ўжо нікому*
*не згадзілася —*
*ні бацьку — не,*
*ні маці — не.*
*Хто ўсхліпне*
*ціха аба мне*

*

*Не час, не лёс...*
*Ну што ж — сцярплю*
*і гэта.*

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА: ЛІНГВІСТЫЧНЫ КАМПЕНДЫУМ

**Падрыхтаваная Б. Плотнікавым і Л. Антанюк кніга з'яўляецца унікальнай і арыгінальнай працай, якая не мае прэцэдэнтаў у славянскім мовазнаўстве, бо адзіны кампендыум па рускай мове, напісаны і выдадзены ў Германіі нямецкімі лінгвістамі ў 1992г., па-першае, істотна меншы па аб'ёме, па-другое, зроблены даволі вялікім калектывам аўтараў, па-трэцяе, носіць вучэбны характар і прызначаны для студэнтаў, што вывучаюць рускую мову як замежную. Дадзеная ж праца мае і навуковую, і даведачную, і педагагічную вартасць. Навуковая каштоўнасць кнігі палягае ў тым, што ў ёй улічана практычна ўся манаграфічная літаратура, прысвечаная беларускай мове, пра што сведчыць бібліяграфія, прыведзеная ў канцы кнігі і скарыстаная ў самім тэксце. Даведачны характар працы вытлумачваецца тым, што ў ёй даецца вызначэнне ўсім найбольш пашыраным і ўжывальным паняццям беларускай навукі аб мове, аб чым можна меркаваць па прадметных паказальніках, змешчаных у кнізе. Педагагічная вартасць кнігі вызначаецца даходлівым выкладаннем усіх тэм па беларускай мове, што вывучаюцца ў школе, ВНУ РБ і за яе межамі.**

**Асаблівай ўвагі заслугоўваюць такія раздзелы, як "Лексікаграфія", "Беларуская мова сярод іншых славянскіх моў", што недастаткова асвятляліся ў беларускім, славянскім і сусветным мовазнаўстве, чым ліквідуецца наяўная лакуна ў лінгвістыцы. Пазнавальную вартасць маюць табліцы і схемы, дзе адлюстраваны галоўныя звесткі пра беларускую мову, якія падлягаюць класіфікацыйным прадстаўленням.**




**Для ўсіх навучэнцаў несумненную карысць уяўляюць арыгінальныя тэксты на старажытнаўсходнеславянскай, старабеларускай і новай беларускай літаратурнай мовах, што з'яўляецца наглядным ілюстрацыйным матэрыялам для ўсіх этапаў функцыянавання і развіцця беларускай літаратурный мовы. Дарэчы, уся гісторыя беларускай мовы і навукі аб ёй сцісла, канцэптуальна і змястоўна выкладзена ў адпаведных раздзелах працы. Хачу адзначыць, што аўтары выкарысталі пры падрыхтоўцы кампендыуму не толькі найбольш значныя манаграфічныя даследаванні па беларускай мове, але і датычныя да беларускай мовы распрацоўкі замежных лінгвістаў.**

**Пэўнае несуладдзе з усёй структурай кнігі выклікае, напрыклад, раздзел "Спецыяльная лексіка", які сваім памерам істотна пераважае такую частку кнігі, як "Лексікалогія", адным са складальнікаў якой ён з'яўляецца па сутнасці.**

**Выказваю ўпэўненасць у тым, што кніга будзе карыстацца попытам не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі, бо здатная паслужыць своеасаблівым эталонам для ўсебаковага апісання іншых моў.**

**Валянціна ТРАЙКОЎСКАЯ**



***Крыху больш за год таму пайшоў з жыцця вядомы беларускі вучоны, доктар педагагічных навук, прафесар Васіль ПРОТЧАНКА(1930-2002). Родам ён з вёскі Зарэчча Брагінскага раёна. Пяру выдатнага вучонага-метадыста належыць больш як 130 навуковых прац. Ён з'яўляецца аўтарам шматлікіх падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для сярэдняй школы і ВНУ.***



У Пярэжырскай СШ на Пухаўшчыне. 1973 г.

# РОДНАМУ СЛОВУ АДДАНЫ

### *Штрыхі да партрэта Васіля ПРОТЧАНКІ – вучонага і чалавека*

Сёння, калі я пішу гэты матэрыял, асабліва востра адчуваецца страта для роднага слова такіх яго духоўных прапаведнікаў і заступнікаў, самаахвярных рупліўцаў, якім быў беларускі інтэлігент Васіль Ульянавіч Протчанка. Яго імя – вучонага-асветніка і адраджэнца – свеціць са скарынаўска-коласаўскага шэрагу зіхоткім сонечным промнем і падтрымлівае нас у надзеі на Будучыню.

Вобраз В. Протчанкі для мяне запамінальны на ўсё астатняе жыццё сваёй індывідуальнай яркасцю і непаўторнасцю. Зрэшты, Васіль Ульянавіч да высокіх атэстацый і гучных азначэнняў сваёй персоны ставіўся стрымана, без эйфарыі, не прымаў адычнага хваласпеву, рэверансаў, тэатральнай няшчырасці, у падобным выпадку папрасіў бы гаварыць па сутнасці, маўляў, каб прамоўца не марнаваў час. Ён адчуваў, калі хтосьці хоча яму дагадзіць, як той славуты крапіваўскі махальнік Іваноў, і займець такім чынам прыхільнае стаўленне. Платон мне – сябар, але ісціна даражэй",– гэтым правілам нязменна кіраваўся прафесар Протчанка.

Безумоўна, Васіль Ульянавіч ведаў сабе цану, быў удзячны за ўвагу да яго асобы, але, паўторымся, не хварэў на культаўскі снабізм. Так, у 2001 г. выйшаў даведнік "Прафесары і дактары навук Беларускага дзяржаўнага універсітэта", у якім, на жаль, не знайшлося месца для біяграфічнай нататкі пра прафесара Протчанку, лёс якога цесна звязаны з БДУ: тут ён быў аспірантам кафедры беларускай літаратуры, намеснікам дэкана факультэта для замежных грамадзян, больш як дзесяць гадоў адначасова з працай у Нацыянальным інстытуце адукацыі выкладаў методыку беларускай мовы, вёў студэнцкі навуковы спецсемінар, кіраваў дыпломнымі работамі, узначальваў Дзяржаўную экзаменацыйную камісію, з'яўляўся намеснікам старшыні савета па абароне дысертацый па педагагічных навуках. Калі Васіль Ульянавіч у маёй прысутнасці пачаў знаёміцца з кнігай пра вучоных БДУ, я са шкадаваннем і няёмкасцю сказаў пра адсутнасць у гэтым выданні яго біяграфіі. Ён адрэагаваў на маю заўвагу спакойна, адразу знайшоў апраўданне ўкладальніцкаму недагляду: "Нічога страшнага. Я ж на філфаку працаваў пагадзіннікам..." Праз хвілін колькі ён дагартаў да літары "Б" і, на яго вялікае здзіўленне, не сустрэў прозвішча вядомага мовазнаўцы, прафесара, былога загадчыка кафедры сучаснай беларускай мовы БДУ Л. І. Бурака. Васіль Ульянавіч не паверыў сваім вачам, адрэагаваў на тое недаўменнымі запытаннямі: "А дзе ж Бурак? Няўжо пра яго забылі?" І даў сваю ацэнку гэтаму "праколу": "Вось гэта дрэнна, братка. А што мяне не згадалі – усяго той бяды". Васіль Ульянавіч Протчанка ўвайшоў у гісторыю беларускай навукі і культуры яшчэ пры жыцці, яскравым сведчаннем чаму такія выданні, як энцыклапедыя "Беларуская мова" (1994), "Беларуская энцыклапедыя" (Т. 13, 2001), энцыклапедычны даведнік "Наука Беларуси в XX столетии" (2001) і інш. Увогуле, яго жыццёвы і творчы шлях пасапраўднаму ўражвае і захапляе: сын палескай вёскі Зарэчча, звычайны беларускі хлопец узняўся да вышыняў вучонасці, стаў настаўнікам роднай мовы ў маштабах усёй краіны, выбітным асветнікам сучаснай Беларусі. Пры непасрэдным удзеле В. Протчанкі распрацавана канцэпцыя моўнай адукацыі, створаны для нацыянальнай школы адукацыйныя стандарты, навучальныя праграмы, ім напісаны школьныя падручнікі і дапаможнікі. Ідэя асобаснага, матывацыйна-мэтавага навучання мове стала яго важкім укладам у беларускую навуку і адукацыю. Вельмі сімвалічна, што навукова-асветніцкая дзейнасць прафесара Протчанкі адзначана медалём Францыска Скарыны.

Я няшмат працаваў поруч з Васілём Ульянавічам у Нацыянальным інстытуце адукацыі, але мне пашчасціла крыху ведаць яго, раіцца з ім, шукаць у яго падтрымкі. Упершыню мы пабачыліся ў 1989 годзе на II Куляшоўскіх чытаннях, якія праходзілі ў Магілёўскім педінстытуце. Ён выступаў з дакладам на пленарным пасяджэнні, гаварыў без паперы перад вачыма, ад таго яго выступлення засталося незабыўнае ўражанне: адчувалася, што прамоўца надзвычай усхваляваны станам выкладання беларускай мовы ў школе, ён крытыкаваў традыцыйныя падыходы ў методыцы, акцэнтаваў увагу на першачарговых праблемах, якія неабходна вырашыць, каб зрабіць эфектыўным навучанне роднай мове. Запомнілася, што ён чытаў на памяць вершы беларускіх паэтаў, прыводзіў прыклады таго, як можна актывізаваць камунікатыўны патэнцыял вучня, выпрацаваць у яго навыкі звязнага маўлення. Голас Васіля Ульянавіча, роўны і разважлівы напачатку, пад самы канец выступлення пачаў цішэць, зрабіўся хрыплавата-ломкім: дало знаць эмацыянальнае перанапружанне. Аўдыторыя, пераважную большасць якой складалі студэнты і настаўнікі, сустрэла тое ўзрушанае слова Протчанкі ўдзячнымі і гулкімі воплескамі.

А далей так атрымалася, што падчас чытанняў мы апынуліся ў адным гурце. Я акурат разгледзеў Васіля Ульянавіча, які пры гаворцы ўвесь час жэстыкуляваў правай рукой: магутная высокая постаць, адкрыты, з залысінамі сакратаўскі лоб, крыху выгнутыя бровы, засмягла-шурпатыя губы, сканцэнтравана-засяроджаны і разам з тым пранізлівы позірк вачэй. На той момант я быў малады аспірант, меў вялікі піетэт да людзей навукі, таму не адважыўся ўставіць у гутарку свае "тры грошы". Я слухаў Протчанкавы разважанні і довады і ўжо тады зразумеў, што знаходжуся з вучоным глыбокіх перакананняў, які адстойвае наватарскія падыходы ў навучанні. Ад самога Васіля Ульянавіча я ўведаў, што ён заканчвае працу над доктарскай дысертацыяй, і прыехаў, апрача іншага, у Магілёў дзеля апрабацыі сваіх навуковых палажэнняў і высноў. Не памятаю, як здарылася, але пасля чытанняў мы з Васілём Ульянавічам пайшлі на шпацыр па горадзе. І зноў я слухаў гэтага чалавека, які быў, здавалася, цалкам паглынуты навукай, праблемамі адукацыі. Зрэдку ён запытваўся і пра маю думку адносна таго, пра што ён гаварыў, але настаўніцкі досвед у мяне быў сціплы, у дыдактычных пытаннях бракавала, як кажуць, належнай падкаванасці. Мы гулялі па горадзе, які быў заліты па-летняму шчодрым сонцам і буяў маладой зелянінай. У нейкі момант Васіль Ульянавіч перастаў гаварыць, і мы крочылі моўчкі датуль, пакуль ён не спыніўся і, мусіць, міжволі не згадаў куляшоўскае:

*...І я гатоў, як дрэў трывалых вецце,*
*Пераступіць яшчэ ў адну пару*
*Свайго жыцця, пакінуўшы ў кювеце*
*Прыгожую ману аб вечным леце.*

Пазней я быў сведкам, як на экзаменах Васіль Ульянавіч прапаноўваў аспірантам для практычнага аналізу філасофскія вершы Куляшова, пранікнёна чытаў іх на памяць. Адчувалася: яму імпанавала глыбокая на думку паэзія.

Часу да цягніка тады заставалася багата, балазе мы падышлі да кінатэатра, і Васіль Ульянавіч прапанаваў схадзіць на фільм. Кінастужка тая была нудная, нецікавая, і яго змарыла стома, ён заснуў.

Вярталіся ў сталіцу мы разам, ехалі ў адным купэ – я заставаўся ўжо не толькі слухачом, бо Васіль Ульянавіч распытваў пра кафедру, на якой ён калісьці вучыўся, пра мае родныя мясціны, пра тое, што чытаю з сучаснай літаратуры.

Далей былі вітанні, поціскі рук. Праўда, сустракаліся на філфаку мы рэдка. Я слухаў яго колькі выступленняў на навуковых канферэнцыях, прыносіў яму як галоўнаму рэдактару часопіса "Беларуская мова і літаратура" свае артыкулы. Бачыцца часцей мы пачалі ў сценах Нацыянальнага інстытута адукацыі, калі напрыканцы 2000 года я заступіў на пасаду загадчыка лабараторыі літаратурнай адукацыі неўзабаве пасля смерці акадэміка М. А. Лазарука. У мяне склалася сваё ўспрыманне Васіля Ульянавіча як вучонага і чалавека.

Найпершы мой клопат быў у тым, каб пастарацца "зацугляць наравістую методыку", прайсці, кажучы словамі Максіма Багдановіча, "паўтарыцельны курс", падвысіць і абнавіць свае веды. На дапамогу прыйшоў Васіль Ульянавіч. Я адразу адчуў яго асаблівую прыхільнасць, нават бацькоўскую апеку, яго шчырае жаданне дапамагчы мне знайсці сябе на новай дзялянцы. "Даражэнькі Алесь! – гаварыў ён. – Я аддаў методыцы не адзін дзесятак гадоў, але не лічу сябе ўсяведам, маўляў, я ўсё даўно ведаю, усё спазнаў. Мне – семдзесят, а я штодня вучуся. – І казаў, даючы параду: – Не зазнавайся, не стамляйся вучыцца, пашыраць і ўгрунтоўваць сваю кампетэнцыю". І Протчанка прапаноўваў мне новыя замежныя навукова-метадычныя часопісы, па якіх ужо густа пахадзіў яго каляровы маркер. Між тым, ён любіў гэтае слова "кампетэнцыя", бо не цярпеў верхаглядства, непрафесійнасці, амбітнай пыхі. Безапеляцыйнасць, а-ля методыка, калядыдактычныя практыкаванні сустракалі з боку Протчанкі рэзкае непрыманне, калі хочаце, супраціў. Васіль Ульянавіч патрабаваў ад аспірантаў і дактарантаў, студэнтаў і маладых калег – і не толькі ад іх! – навуковай выверанасці і абгрунтаванасці думкі, творчай, а не адвольнай трактоўкі навуковых дэфініцый, развіцця дыдактычных ідэй, а не іх калькавання, механічнага перанясення з чужароднай на беларускую глебу. Сам жа Васіль

Ульянавіч быў выдатны палеміст, бліскуча валодаў сістэмай аргументацыі і доказнасці. У бездакорнай логіцы і глыбокай аналітыцы прафесара Протчанкі я пераканаўся неаднойчы, слухаючы яго выступленні на вучоных саветах НІА, савеце па абароне дысертацый у БДУ. Слова яго было заўсёды ўзважанае, прадуманае, падмацаванае тэарэтычнымі выкладкамі. Гэтаму вучыў і тых, хто ідзе ў навуку: дыскутаваць, пераканальна давадзіць сваю пазіцыю, шукаць у спрэчках ісціну. Вораг метадыкі, лічыў ён, дылетанцтва, аморфнасць і прыблізнасць думкі. Гэты хаос, адвольная і не абцяжараная навуковасцю інтэрпрэтацыя матэрыялу прыводзіць да таго, што метадыку часам жартоўна параўноўваюць з п'яным чалавекам, якога хістае, водзіць у розныя бакі. В. У. Протчанка патрабаваў сістэмнага падыходу да вырашэння адукацыйных і метадычных праблем, дамагаўся выразнасці, яснасці мэт і задач пры канструяванні зместу навучання, з педантычнасцю шліфаваў фармулёўкі тэм, каб тыя ў выніку мелі навуковую прэзентабельнасць, рэкамендаваў і раіў толькі тое, што актывізуе творчы пошук, прынясе сапраўдны плён.

Што грэх утойваць: камусьці прафесар Протчанка мог падацца сярдзітым, гняўлівым і нават зацятым у адстойванні сваіх поглядаў. Асабіста я такім яго не ведаю. Ён быў гранічна адкрыты, бо гаварыў тое, што думае, публічна, а не ў кулуарных баталіях ці на адмысловых пасядзёнках. Заставаўся прынцыповы, не мог пайсці на кампраміс з сумленнем, адсюль яго часам вострая крытычнасць, рэзкасць тону, нават суровасць у ацэнках павярхоўных меркаванняў і хуткаспелых высноў. А яшчэ ён не мог стрываць бесцырымоннасць, нетактоўнасць у тых выпадках, калі прыніжалася яго навуковая і чалавечая годнасць. Праз гэта ён вельмі перажываў. Як мог я супакойваў Васіля Ульянавіча, калі ён балюча рэагаваў на беспадстаўныя закіды ў рэцэнзіі на яго падручнік для IX класа. Ён запрасіў аўтара той рэцэнзіі на гутарку, каб зняць, магчыма, дыскусійныя пытанні, сёе-тое праясніць ці пачуць больш доказныя крытычныя меркаванні. Рэцэнзентка, мабыць, праігнаравала тое запрашэнне, і прафесар Протчанка справядліва абураўся такімі яе паводзінамі.

Васіль Ульянавіч хоць і патрабавальна, але са шчырай добразычлівасцю ставіўся да моладзі. "А мая вы, Шкілёнак, я вельмі рады вашаму поспеху",– не хаваючы радасці, Васіль Ульянавіч сказаў маладому метадысту пасля яе абароны дысертацыі. "Гэтага хлопца са Смалян нам трэба падтрымаць. Ён сталы аўтар часопіса, з яго, пэўна, будзе толк",– сказаў ён перад уступным экзаменам у аспірантуру пра настаўніка з-пад Оршы В. Мяжэвіча.

Васіль Ульянавіч аднойчы мне патлумачыў, чаму не хоча браць новых аспірантаў і кіраваць іх навуковай працай. Ён усё ж прадчуваў наканаванасць немінучага адыходу, добра ўсведамляў усю адказнасць, якая кладзецца на яго плечы за лёс маладога вучонага. Баяўся і шкадаваў, што не паспее вывесці некага на прасцягі навукі. Я тады распавёў Васілю Ульянавічу пра тое, што мая жонка некалі абараніла дыпломную работу па методыцы мовы, даследавала праблемы словаўтварэння, абапіралася пры гэтым на яго сістэму навучання. І марыла паступіць у аспірантуру. У педінстытуце, куды яна падалася, зведала дыскрымінацыю: маўляў, хай жанчына дзяцей гадуе, а не ў навуку ідзе. "Слухай, Алесь, хай паступае да нас у аспірантуру, я буду яе кіраўніком",– адразу ж прапанаваў Васіль Ульянавіч і дадаў: "Мары павінны спраўджвацца". Вядома, я падзякаваў Васілю Ульянавічу, сказаў, што ўжо позна гэта рабіць, ды і сама яна ніколькі не шкадуе пра няздзейсненую навуковую кар'еру. А прыклад таму – дзесяткі кандыдатаў навук, якія пасля абароны дысертацый заспакоіліся, так і не здолелі генерыраваць новыя навуковыя ідэі, нават не навучыліся цікава выкладаць свой прадмет. Пасля таго, як жонка даведалася пра змест нашай гутаркі, яна сказала: "Нечага сур'ёзнага дасягнуць у методыцы, мусіць, можна толькі маючы за настаўніка навукоўца такога маштабу і ўзроўню, як Васіль Ульянавіч Протчанка". Ён быў карыфей у методыцы выкладання мовы і педагогіцы, вучоны самага высокага рангу, таму такім пашаноўным было стаўленне да яго студэнцкай і навуковай моладзі.

...За год да смерці Васіль Ульянавіч прапанаваў мне рэдагаваць часопіс "Беларуская мова і літаратура". Напачатку я аднекваўся, але ён праз колькі часу ўсё ж давёў, чаму хоча перадаць мне гэтае выданне, як ён сказаў, "ў спадчыну". Канцэпцыя часопіса была распрацавана і рэалізавана ім надзвычай паспяхова. Протчанкаўская традыцыя прадвызначае далейшае развіццё выдання, якое выходзіць сёння накладам звыш 6 тысяч асобнікаў.

Па-грамадзянску В. Протчанка быў заклапочаны станам роднай мовы, асабліва што тычыцца яе вывучэння ў школе. І пра беларускую літаратуру хваляваўся таксама, на выкладанне якой, і тут мы былі аднадумцы, павінна быць адведзена як мага больш гадзін. І гэта зразумела: родная мова і літаратура фарміруюць ментальнасць, беларускую душу, свет асобы. Калі я паведаміў Васілю Ульянавічу пра агучаную мне ідэю інтэграванага курса – беларуская, руская і сусветная літаратура, то ён адразу выказаўся крытычна і прапанаваў: "Нам трэба стварыць альтэрнатыўны курс для старшакласнікаў – беларуская мова і літаратура. Ён цалкам магчымы, гэтая ідэя жыццяздольная. Давай паспрабуем разам распрацаваць гэты курс".

Мне чамусьці Васіль Ульянавіч не памятаецца спахмурнелым, панурым. Праўда, ён колькі разоў наракаў на сваё самаадчуванне, але трымаўся мужна. Толькі самая апошняя наша сустрэча на калідоры інстытута выдала ў ім спакутаванага чалавека, якога апаноўвае хвароба. Але на развітанне я адчуў цёплы поціск рукі. Помніцца: яго вочы гаварылі пра нядобрае, фатальнае, але цяпло рукі абнадзейвала...

Так атрымалася, што мне не давялося правесці на вечны спачын Васіля Ульянавіча. Можа таму мне чамусьці здаецца, што я яшчэ пабачу яго на гэтым свеце. Ён жывы для мяне, я думаю пра Васіля Ульянавіча з удзячнасцю. У сваім жыцці я сустрэў рэдкага і цудоўнага чалавека, які, нягледзячы на розніцу ва ўзросце, ставіўся да мяне па-сяброўску, з павагай, душэўнай чуласцю і далікатнасцю. Скажу шчыра: такіх людзей на маім шляху было небагата, таму забыць дарагі воблік Васіля Ульянавіча немагчыма.

Васіль Ульянавіч Протчанка быў і застанецца яркай Асобай і вялікім аўтарытэтам у метадычнай навуцы, яго духоўная прысутнасць у нашым нацыянальным свеце будзе доўжыцца датуль, пакуль будзе існаваць само Роднае Слова.

**Алесь БЕЛЬСКІ,**
**доктар філалагічных навук, прафесар**


З настаўнікамі і вучнямі Зарэцкай сямігодкі Брагінскага р-на (у першым радзе — 3-ці злева)

**ДАНІНА ПАВАГІ**

Стаяў май 1998 года. Працоўны дзень закончыўся. У кабінетах рэдакцыі нарэшце ўсталявалася цішыня. Я ўжо збіраўся пакідаць памяшканне "раёнкі", як на парозе паказаўся паэт Эдуард Грахавец. Прызнаюся, што я нават разгубіўся. Гэта ж трэба: гадоў дваццаць пяць, а, магчыма, і ўсе трыццаць не наведваўся ён у рэдакцыю.

— Якім лёсам закінула на родную Лагойшчыну? — пацікавіўся я.

— Апошнім часам прыгадваю даўнія гады, калі часцяком бываў тут, часта друкаваўся ў вашай газеце, выступаў па раённым радыё. І вось вырашыў наведацца.

Перакінуліся словамі аб сямейным жыцці, дзецях.

Мяне, вядома, цікавіла, ці піша ён вершы. Справа ў тым, што пасля таго, як паспрабаваў выдаць зборнік, які, па словах Ніла Гілевіча, неабгрунтавана "зарэзалі" ў выдавецтве, я больш ні ў адным выданні не сустракаў прозвішча Эдуарда Грахаўца. Урэшце, запытаў і пра гэта.

— Пішу, аднак, вельмі мала. Не магу пераадолець крыўды, таму і не пасылаю напісанае ні ў газеты, ні ў часопісы.

— Магчыма, што-небудзь ёсць з сабой? У нас літаб'яднанне зноў ажывілася, паявілася новыя здольныя аўтары.

На добрым прафесійным узроўні былі напісаны ўсе вершы, перададзеныя Эдуардам.

— Не разумею, — здзівіўся, — пісаць такія творы і насіць пры сабе. Ну хоць бы ў "раёнцы" друкаваў. Землякі б пачыталі і парадаваліся за цябе.

Грахавец сумнавата ўсміхнуўся і адказаў:

— Жыццё, лічы, пражыта. Значыць, лёсам не было мне наканавана стаць прызнаным паэтам. І ўсё ж находзяць моманты, калі не пісаць не магу.

Развітваючыся, ён доўга трос маю руку і гаварыў, што вельмі рады, што пабываў у Лагойску.

Не ведаю чаму, аднак мне падалося, што яго прыезд насіў развітальны характар. І сам Эдуард выглядаў занадта задуменным, нават сумным.

"Завішынскі вальс" мы змясцілі ў "Родным краі" на першай старонцы якраз перад пачаткам выпускных экзаменаў у сярэдніх школах. Я нават два экземпляры газеты паслаў Э. Грахаўцу ў Жодзіна. Дні міналі, аднак новых вершаў ад яго паштальён у рэдакцыю не прынасіў.

А ў пачатку лютага 2000 года Эдуарда не стала. Ужо будучы цяжка хворым, лежачы на бальнічным ложку, ён за два з паловай месяцы напісаў ажно 47 вершаў. Ды якіх вершаў! Іх высока ацаніў народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Яны, па сутнасці, і склалі аснову зборніка "Вяртанне", да выхаду якога ў свет паэт не дажыў зусім нямнога.

# БЫВАЕ МІГ — У АДНАЧАССІ

— Вельмі прыемна гэта чуць, — задуменна зазначыў Эдуард. — Паэзія, Іване, гэта такая рэч, якая жыве вечна, калі яна ёсць у сэрцы.

Сказаўшы, з хвіліну памаўчаў, а пасля выцягнуў з унутранай кішэні некалькі спісаных лістоў з вучнёўскага сшытка.

— Тут ёсць адзін верш — "Завішынскі вальс". Вельмі б добра было, каб вы яго надрукавалі да школьных выпускных баляў. Разумееш, я заканчваў дзесяцігодку ў Завішыне. У ім кожны радок, кожнае слова — гэта часцінка майго сэрца.

Я прабег вачыма па тэксту верша і яго мілагучнасць кранула мяне:

***Кожны год***
***зімой і летам,***
***У дні надзей і слот***
***Чую музыку я гэту***
***Многа-многа год.***

...На маёй кніжнай паліцы сярод іншых твораў стаіць томік у мяккай вокладцы ўсяго на сотню старонак. Гэта зборнік вершаў нашага земляка ўраджэнца вёскі Булахкаўка Эдуарда Грахаўца. Я часта бяру яго ў рукі, зноў і зноў чытаю вершы, думаю, што ўсё-такі не праў быў Эдуард, калі зазначыў, што лёсам, відаць, яму прызначана не стаць прызнаным паэтам. Яго кніжка абвергла гэтыя словы роспачы, бо яна, па сцвярджэнні многіх крытыкаў, з'явілася важкай цаглінкай у падмурку гмаха, назва якому — Паэзія.

**Іван СІЛЯЎКА**
**член БСЖ.**

**Эдуард ГРАХАВЕЦ**

*— Ты, мама, кажаш сны свае*
*Ў тую хвілю я, калі*
*Збіраю ягады твае,*
*Што ты рассыпала калісь...*

**1999 г.**

•

*Усю ноч мастак*
*сягоння працаваў —*
*Карціну ён пра лета маляваў.*
*На фоне тых*
*чарнобыльскіх падзей —*
*На той карціне вёска без людзей.*
*І ты куды не кінеш свой пагляд —*
*Сады адны шчыруюць вышай хат.*
*Вакол травы і плоту не відаць.*
*Мастак спыніўся —*
*шчэ што маляваць?*
*А можа Бог*
*як дасць мне новы дзень,*
*Да новай думкі пэндзаль прывядзе?*
*І раніцою стане ўсё не так...*
*Усё перайначыць*
*стомлены мастак...*

**1989 г.**

•

*Бы чагось злякнуўся камень —*
*І пайшла лавіна з гор.*
*Так мне вынес нечакана*
*Ўрач смяротны прыгавор.*
*Я стаяў, як анямелы,*
*Як у нейкім страшным сне.*
*Ўсё гудзела і грымела,*
*І ляцела на мяне.*
*Пра былое —*
*ўсё забыта*
*І што будзе —*
*з галавы.*
*Я той лавай быў забіты,*
*І усё-ткі быў жывы.*
*Толькі твар абняў рукамі*
*Без дыхання і без слёз,*
*Павярнуў і цяжкі камень*
*У душы сваёй панёс.*

**1999 г.**

## АНОНС



# СЛЕДАМ ЗА ЛАСЁМ

***Мы паведамлялі пра супольны праект прадзюсера Арыны Вячоркі ды музычнага таварыства "Ліра", які пэўным чынам кампенсуе летняе зацішша ў філарманічным жыцці сталіцы. "Старадаўняя музыка Беларусі" — вось назва гэтага канцэртнага цыкла, які ладкуецца ў зале на Залатой Горцы (касцёл Святога Роха).***

Яго першая праграма з удзелам баранавіцкага ансамбля "Кантраданс", які выступаў пад новым імем "Lituus", ды спявачкі Тамары Рэмез і арганіста Віктара Кісцяня, якія складаюць цудоўны дуэт, адбылася 15 чэрвеня, выклікаўшы і вялікую цікаўнасць, і захапленне, і ўдзячнасць публікі.

Добрых уражанняў дадалося пасля наступнага канцэрта — сустрэчы з адмыслоўцамі старадаўняй аўтэнтычнай музыкі Беларусі, капэлай Алеся Лася, які, нібы між іншым, правёў і асветніцкую гутарку, акрэсліўшы гісторыю, асаблівасці бытавання і рэпертуару тыповых для беларусаў народных музычных інструментаў. Няглядзячы на разгар нядзельнага летняга дня ў зале зноў было людна...

На мінулым тыдні галоўныя чыннікі праекта "Старадаўняя музыка Беларусі" ездзілі ў Магілёў — як удзельнікі канцэртаў і конкурснай праграмы фестывалю "Магутны Божа". Таму чарговую "залатагорскую" сустрэчу прызначылі на 6 ліпеня. Імпрэза мае адбыцца, як заўсёды, а 16-й гадзіне. Замоўлена выступленне гуртоў старадаўняй музыкі "Brevis" ды "Artis Liberalis".

**С.ВЕТКА**

*НА ЗДЫМКУ: удзельнік праекта — гурт старадаўняй музыкі "Brevis" мінскай СШ № 13.*

## КАЛЯНДАР "ІР"

Знаёмая абрэвіятура сама па сабе ўспрымаецца як анонс культурніцкіх імпрэзаў Польскага інстытута ў Мінску. Большасць з іх і насамрэч адбываецца ў нашай сталіцы.У гэтым пераконвае і план "ІР" на бліжэйшы квартал.

У ліпені-верасні чакаецца, прынамсі, выхад шэрагу выданняў, падрыхтаваных супольна з гістарычным ды філалагічным факультэтамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Навукова-асветным цэнтрам імя Ф.Скарыны і г.д. ("Польска-беларускія культурныя сувязі ў перыяд 1945-1991 гг.", на беларускай мове, "Анталогія польскай паэзіі XX ст." — том 1, ч. 1 у перакладзе Алега Лойкі, зборнік паэзіі Зоф'і Манькоўскай на беларускай мове ды інш.)

На верасень замоўлены шэраг прэм'ер, фэстаў. Сярод іх — Міжнародны фестываль перформансу, што ладкуецца Асацыяцыяй сучаснага мастацтва, Музеем сучаснага выяўленчага мастацтва Беларусі, Гётэ-інстытутам; прэм'ера кінафільма Анджэя Вайды "Помста"; спектакль Багуслава Шэфера "Аўдыенцыя-3-Рай эскімосаў" у пастаноўцы ўроцлаўскай трупы на Міжнародным тэатральным фестывалі "Белая Вежа" ў Брэсце; вечары польскай музыкі 19 ст.; музычны спектакль "Песні з гета" Сопацкага тэатра "Атэлье" імя Агнешкі Асецкай...

**С.Б.**

## ПАДЗІВІСЯ!

### НАШЫ Ў МАСКВЕ

У рамках Чэхаўскага фестывалю, што праходзіў у чэрвені ў Маскве, у тэатры "Эрмітаж" быў паказаны спектакль Беларускага фонду культуры "Больш, чым дождж" у рэжысуры П. Адамчыкава. У той жа час на малой сцэне МХАТа пад кіраўніцтвам А. Табакова адбылася прэм'ера спектакля паводле п'есы маладога беларускага драматурга А. Курэйчыка "П'емонцкі звер" ( у Беларусі гэты драматургічны твор увасоблены толькі на сцэне Гродзенскага абласнога драмтэатра ў рэжысуры А. Жугжды).

## ЦЫТАТА

БЕЛАРУСКІ ДРАМАТУРГ АНДРЭЙ КУРЭЙЧЫК: "Атрымаўся добры спектакль, чаму я вельмі рады. Усё атрымалася значна лепш, чым у Гродне, і ўвогуле — гэта самае лепшае з усяго, што рабілася паводле майго матэрыялу. Вельмі добрыя акцёрскія работы: Дабравольская, Ламакіна — сапраўдныя зоркі. Добрая сцэнаграфія. Прастораваe рашэнне проста неверагоднае..."

"П'емонцкі звер" у МХАТе"
"Развлечения и отдых",
16-23 чэрвеня



## АФІША ЛІПЕНЯ



**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета (пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-06-66)**

**6,13** — П. Чайкоўскі "Лебядзінае возера"
**8** — А. Пятроў "Стварэнне свету"
**10** — А. Мдзівані "Страсці" ("Рагнеда")

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага (вул. Валадарскага, 5, тэл. 220-15-41, 220-39-66)**

**Летнія сезоны ў Тэатры імя М. Горкага!**

**8** — "Амфітрыён", інтымныя сцэны з жыцця людзей і багоў
**9** — А. Дудараў "Люці"
**10** — Д. Фо, Ф. Рамэ "Свабодны шлюб"
**11** — М. Эрдман "Тэрмінова патрабуецца... самазабойца"
**15** — І. Губач "Ад'ютанШа яго Вялікасці"
**16** — Ф. Рэньяр "Адзіны спадкаемца"
**17** — Г. Гауптман "Перад заходам сонца"(закрыццё юбілейнага сезона)

**Пачатак ранішніх спектакляў а 11-й, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Тэатр-студыя кінаакцёра (пр. Машэрава,13, тэл. 223-08-11)**

**7** — Е.Міровіч "Тэатр купца Япішкіна", сатыра
**8,9** — Б. Шоу "Пігмаліён", музычная камедыя
**10** — Д. Кілці "Мілы хлус"
**11,12** — Г. Салоўскі "Вострaў нашай любові і надзеі", праўдзівая казка для дарослых
**14,15** — Л. Вернейль "Выкраданне Алены", французскі ад'юльтэр
**16,17** — С. Бартохава "Поле бітвы", камічная драма
**18,19** — Э.дэ Філіпэ "Філумена Мартурана", камедыя
**21** — "Айседора. Танец каханння", лірычная драма
**22,23** — А. Данілаў "Мы ідзём глядзець "Чапаева", трагіфарс

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**



*НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля "Тэрмінова патрабуецца... самазабойца".*

**Фота М. ПРУПАСА**

## У СТАЛІЦЫ



**Зала камернай музыкі (пр. Скарыны, 44а)**

**8 — Гітарыст Вячаслаў Тарлецкі.** У праграме Альбеніс, Іваноў-Крамской, Паганіні, Віла-Лобас ды інш.

**10 — "Галантнае запрашэнне".** Мінскі струнны квартэт у складзе: Ю. Герман, А. Уласенка (скрыпкі), У. Хімарода (альт), Д. Скляроў (віяланчэль). Саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі Канстанцін Шараў (арган, клавесін). Музыка Вівальдзі, Гендэля, Бартнянскага, Леклера ды інш.

**15 — Канцэрт арганнай музыкі.** Творы Фробергера, Баха, Райнбергера грае Уладзімір Неўдах.




Выходзіць З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**
**Віктар ШНІП**

**Рэдакцыйная рада:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Леанід ГАЛУБОВІЧ,**
**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**
**ТЭЛЕФОНЫ:**
**галоўны рэдактар — 284-6673**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404**
**адказны сакратар — 284-6673**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-7965**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965**
**літаратурнага жыцця — 284-7965**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965**
**паэзіі і прозы — 284-7965**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-7965**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-6672**
**Тэл./факс — 284-85-25**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1517
Нумар падпісаны ў друк 18.06.2003 у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 1641

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12